Спецыяльны выпуск

№ 9 (798) 6 сакавіка 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# Блогеры выкрылі журналіста Чудзянцова, яго звольнілі з Tut.by

Журналіст пачынаў з **паклёпаў на Карпенку**.

«Калі хтосьці з тых, хто смокча гранты, патрабуе эканамічных санкцый, а значыць — хоча краху эканомікі маёй краіны, маім рэкламадаўцам і кліентам, дзякуючы якім я, асабіста я, атрымліваю зарплату і ганарары, то гэты чалавек аўтаматычна становіцца маім асабістым ворагам, і тут ужо нічога не зробіш. Буду шчыры: пытанне, колькі я зараблю ў наступным месяцы і чым буду карміць сваю сям'ю, хвалюе мяне куды больш, чым нейкія там палітвязні, якія самі вельмі старанна нарываліся, каб такімі стаць», — напісаў у Фэйсбуку журналіст Tut.by Уладзімір Чудзянцоў 24 лютага.

Такім чынам ён абараняў пазіцыю свайго працадаўцы Юрыя Зісера ў ягонай палеміцы з рэдактаркай «Хартыі-97» Наталляй Радзінай. Цікава, што ў 2011 ён гаварыў і пісаў адваротнае: аб патрэбе эканамічных санкцый, бо «біць трэба па самым балючым месцы». Ён таксама казаў, што «ў нармальнага чалавека душа баліць за кожнага палітвязня ў свеце».

«Дык ху із містар Чудзянцоў?» — задаўся пытаннем блогер Хведар Паўлючэнка. І знайшоў: аказваецца, людзі мала ведаюць пра Чудзянцова, бо ён раней быў... Зуевым.

У 1996 з Зуевым праз паклёпніцкі артыкул судзіўся палітык Генадзь Карпенка. Зуеў на судзе чыстасардэчна прызнаўся: «Матэрыял пісаўся на падставе дакладной запіскі за подпісам кіраўніка вельмі грознага і буйнога ведамства, а рашэнне аб падрыхтоўцы дадзенага матэрыялу прымалі яшчэ больш высокапастаўленыя людзі ...»



У інтэрв'ю «Свободным новостям» Зуеў прызнаваўся, што на «фабрыцы прапаганды» ствараў «БНФаўскія ўлёткі», дзе заклікаў людзей прыходзіць на акцыі з бутэлькамі і камянямі. Насамрэч гэта ж былі фальшыўкі.

У 2010 з'яўляецца рэпарцёр «Рускай службы навін» Уладзімір Чудзянцоў, які потым пераходзіць на працу на Tut.by.

Пасля такіх выкрывальніцкіх допісаў Чудзянцоў зняважыў у сацыяльных сетках некалькіх чалавек, а потым выдаліўся з Фэйсбука. Юрый Зісер прынёс прабачэнні, але адмаўляўся звольніць чалавека, даў яму апошні шанец, якім Чудзянцоў не скарыстаўся. Супрацоўніцтва з парталам на гэтым скончылася.

Цяпер Чудзянцоў абяцае запусціць уласны праект, «абсалютна незалежны».

**Мікола Бугай**

## Звольніць Чарнякевіча загадаў асабіста Сямён Шапіра

«Ва ўніверсітэце 16 чалавек, якія заклікаюць звергнуць уладу»

«Наконт Чарнякевіча прымаў загад я асабіста», — раскрыў таямніцу звальнення гісторыка і дацэнта ГрДУ старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра на прадстаўленні новага рэктара ГрДУ.

«Напісалі падручнік і надрукавалі за мяжою. За чые грошы? — выступаў галоўны чыноўнік Гарадзеншчыны. — Не, каб да мяне прыйсці і пагаварыць!»

Шапіра ўпікнуў былога рэктара Яўгена Роўбу, што той марудзіў са звальненнем Чарнякевіча. Старшыня аблвыканкама таксама падзяліўся з прысутнымі, што рэгулярна чытае зводкі КДБ і ведае ўсё: «Ва ўніверсітэце шаснаццаць чалавек, якія заклікаюць звергнуць уладу». Гэтыя неназваныя ненадзейныя элементы не проста заклікаюць зрынуць уладу, але яшчэ і... ездзілі на роварах і плякалі ў ладкі.

Нямала ж такіх, калі ў адным універсітэце налічылі аж 16!

**АК; «Белсат»**

**Фотафакт**




**Лявон Вольскі і кампанія далі чарговы канцэрт у Вільні. Людзей было — не прапхнуцца, і ў зале лунала мноства бел-чырвона-белых сцягоў.**

**Віншуем**



**Анатолю Сідарэвічу — 65**

1 сакавіка споўнілася 65 гадоў гісторыку Анатолю Сідарэвічу. Гэта чалавек-энцыклапедыя: даследчык нацыянальнага руху XX стагоддзя, адзін з адраджальнікаў беларускай сацыял-дэмакратыі.



**Лявону Баршчэўскаму — 55**

4 сакавіка адсвяткаваў сваё 55-годдзе філолаг, перакладчык, педагог і грамадскі дзеяч Лявон Баршчэўскі.

**Павіншаваць Сідарэвіча і Баршчэўскага можна праз каменты на nn.by.**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

**Сціслa**

**Фальсіфікуюць усё**

Пракуратура Мінскай вобласці распачала крымінальную справу ў дачыненні да намесніка генеральнага дырэктара ААТ «1-я Мінская птушкафабрыка». Яму інкрымінуецца фальсіфікацыя дадзеных па зборы збожжа на пасадзе дырэктара КСУП «Племптушкарэпрадуктар «Праўда».

**Новы год пачаўся са $150 мільёнаў адмоўнага сальда**

Гэта значна лепш за сітуацыю ў лістападзе-снежні, калі Беларусь штомесяц губляла па $650 мільёнаў. Аднак усё адно застаецца істотны дэфіцыт плацежнага балансу, бо яшчэ каля $300 мільёнаў было выплачана ў расійскі бюджэт у якасці кампенсацыі за пастаўкі бязмытнай нафты.

**Памёр гісторык Валянцін Грыцкевіч**

Валянцін Грыцкевіч, якому ў канцы сакавіка павінна была споўніцца 80 гадоў, доўгі час хварэў, паўтара месяца ляжаў без прытомнасці. Памёр у Санкт-Пецярбургу. Навуковыя даследаванні В.Грыцкевіча былі прысвечаны гісторыі беларускай медыцыны.

**Мінчука ў позе лотаса забіла машына**

Здарэнне на вуліцы Прытыцкага адбылося а 2-й гадзіне ночы 3 сакавіка. Мужчына проста сядзеў на праезнай частцы дарогі ў позе лотаса і гайдаўся.

**БТ назвала Лаўрова міністрам «иносранных» спраў**

У антыамерыканскім сюжэце Беларускае тэлебачанне ўмудрылася зрабіць памылку ў подпісе кіраўніка МЗС Расіі.

**ЗП, ЯМ**

**Рэкамендуем**

## Сталін паміраў як сабака

Першыя дзесяць гадзін пасля інсульту кіраўнік СССР праляжаў на халоднай падлозе ў мокрых ад мачы падштаніках.

## Жыццё са сметніцы

Новая мода: фрыганы — людзі, якія адмаўляюцца ад кансьюмерызму і сумленна лезуць у сметнік за ежай.

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

**Самае чытанае на nn.by за 27 лютага — 5 сакавіка 2013**

1. Сапраўднае прозвішча Чудзянцова Зуеў, ён пачынаў з паклёпаў на Карпенку
2. Зісер: Мы больш не хочам, каб Чудзянцоў працаваў у нас
3. Каліноўскі вешае Мураўёва. Выйшла настольная гульня «Паўстанцы»
4. У «Вечаровым Урганце» смяяліся з беларускага АМОНа
5. Двойчы згвалціў, абакраў, збіў і закапаў пад снегам — дзяўчына выжыла
6. «Вельмі сур'ёзны турыст» расказаў, чаму не ўсміхаецца на фота
7. Неанацыста Цесака выпусцілі з мінскага СІЗА з сябрамі
8. Лукашэнка папярэдзіў бізнэс пра недапушчальнасць фінансавання апазіцыі
9. Студэнт з Туркменістана: Беларусь — гэта востраў свабоды
10. Стомлены Мясніковіч бяжыць па лыжні

# 100 уплывовых беларусаў

**Ад Рэдакцыі**

Часопіс Forbes штогод складае спіс самых уплывовых асобаў свету. Гэта некалькі дзясяткаў людзей, ад якіх залежыць хада сусветнай гісторыі. «Уплывовасць» — вельмі няпэўная катэгорыя, таму эксперты часопіса абапіраюцца на чатыры асноўныя крытэрыі. Гэта колькасць людзей пад кіраваннем асобы, рэсурсы, у тым ліку фінансавыя, якія яна можа размяркоўваць, колькасць сфераў грамадскага жыцця, на якія мае ўплыў, а таксама актыўнасць, з якой намінант карыстаецца сваёй уладай. Апошнія два гады месца на першай прыступцы рэйтынгу Forbes займае прэзідэнт ЗША Барак Абама.

Свае «хіт-парады» ўплывовасці маюць многія дзяржавы, у тым ліку і суседнія Украіна з Літвой. Гэта традыцыя, якая дазваляе адсачыць змены ў жыцці краіны. Цікавасць яны ўяўляюць і для саміх фігурантаў рэйтынгу.

«Наша Ніва» паспрабавала скласці такі рэйтынг для Беларусі. Для гэтага мы запрасілі дзясятак экспертаў з розных сфераў і пляцовак.

Наш спіс самых уплывовых беларусаў адлюстроўвае грамадскае жыццё краіны на пачатак 2013 года. Складаць мы яго пачалі ў студзені.

Ва ўмовах аўтарытарнай мадэлі дзяржавы прабіцца на першыя пазіцыі чалавеку, не звязанаму з уладамі, неймаверна складана. Не здзіўляйцеся, што ў лідарах рэйтынгу спрэс сілавікі і чыноўнікі, а таксама набліжаныя да іх бізнэсоўцы.

Складанне такога спіса ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму мае сваю спецыфіку. У дэмакратычнай краіне ўлада размеркавана між рознымі інстытутамі і людзьмі, якія іх узначальваюць. Яны ўраўнаважваюць адзін аднаго, і яны роўныя перад законам. Груба кажучы, калі падзяліць уладу і ўплыў людзей у Амерыцы, то Абама будзе мець 2%, віцэ-прэзідэнт Байдэн — 0,5%, а астатнія грамадзяне — 97,5%. У Беларусі ж адзін чалавек мае 60%, амаль неабмежаваную ўладу, ён можа прымаць і ажыццяўляць амаль любыя рашэнні, а вага ўсіх астатніх разам узятых — нашмат меншая. Але і іншыя людзі часам нешта значаць. Нават калі яны сядзяць у турме і бачаць сонца раз за год. Гэта да таго, што эксперты амаль адзінагалосна назвалі ў Топ-100 і шэраг палітычных вязняў, сярод якіх Статкевіча, Бяляцкага, Севярынца.

У той жа час пазіцыі многіх чыноўнікаў і бізнэсоўцаў у версе спіса не надта трывалыя. Часцяком гэта ацэнка месца, на якім сядзіць чалавек, а не ягонай асобы. Шэйман, Макей, Сідорскі, Румас, Канаплёў — людзей, якія, відаць, будуць трапляць у спіс незалежна ад пасады, зусім мала.

Абсалютны кожны эксперт, якога мы апытвалі, назваў Аляксандра Лукашэнку ў сваім рэйтынгу першым.

У цэлым мы палічылі, што складанне такога рэйтынгу мае сэнс. Усё ж фармаванне маладога палітычнага класа, як і бізнэс-класа, — гэта вельмі важны для станаўлення нацыі працэс, і адсочваць яго важна, нават калі ў фокус увагі пры гэтым могуць трапляць і людзі выпадковыя ці незаслужаныя.

| № | Імя | Пасада |
|---|---|---|
| 1 | **Аляксандр Лукашэнка** | кіраўнік краіны |
| 2 | **Віктар Лукашэнка** | памочнік прэзідэнта па пытаннях бяспекі |
| 3 | **Міхаіл Мясніковіч** | прэм'ер-міністр |
| 4 | **Валерый Вакульчык** | старшыня КДБ |
| 5 | **Андрэй Кабякоў** | кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта |
| 6 | **Уладзімір Макей** | міністр замежных справаў |
| 7 | **Юрый Чыж** | бізнэсовец, уласнік кампаніі «Трайпл» |
| 8 | **Андрэй Уцюрын** | кіраўнік службы аховы прэзідэнта |
| 9 | **Уладзімір Сямашка** | першы віцэ-прэм'ер |
| 10 | **Віктар Шэйман** | кіраўнік Кіраўніцтва справаў прэзідэнта |
| 11 | **Барыс Батура** | старшыня Мінскага аблвыканкама |
| 12 | **Аляксандр Якабсон** | старшыня Камітэта дзяржкантролю |
| 13 | **Ігар Шуневіч** | міністр унутраных справаў |
| 14 | **Уладзімір Пефціеў** | бізнэсовец, былы ўласнік «Белтэхэкспарту» |
| 15 | **Пятро Пракаповіч** | віцэ-прэм'ер |
| 16 | **Надзея Ермакова** | старшыня Нацбанка |
| 17 | **Юрый Жадобін** | міністр абароны |
| 18 | **Сяргей Шпягун** | кіраўнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра |
| 19 | **Аляксандр Шакуцін** | бізнэсовец, старшыня рады праўлення «Амкадора» |
| 20 | **Наталля Пяткевіч** | памочніца прэзідэнта |
| 21 | **Мікалай Ладуцька** | старшыня Мінгарвыканкама |
| 22 | **Павел Якубовіч** | галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссія» |
| 23 | **Леанід Мальцаў** | дзяржаўны сакратар Рады Бяспекі |
| 24 | **Лідзія Ярмошына** | старшыня Цэнтрвыбаркама |
| 25 | **Ірына Абельская** | галоўная доктарка Лечкамісіі |
| 26 | **Дзмітрый Лукашэнка** | старшыня Прэзідэнцкага спартыўнага клуба |
| 27 | **Міхаіл Захараў** | галоўны трэнер хакейнага «Юнацтва» |
| 28 | **Сямён Шапіра** | старшыня Гродзенскага аблвыканкама |
| 29 | **Канстанцін Сумар** | старшыня Брэсцкага аблвыканкама |
| 30 | **Аляксандр Косінец** | старшыня Віцебскага аблвыканкама |
| 31 | **Сяргей Касцючэнка** | старшыня праўлення «Прыёрбанка» |
| 32 | **Анатоль Тозік** | віцэ-прэм'ер |
| 33 | **Аляксандр Канюк** | генеральны пракурор |
| 34 | **Уладзімір Дворнік** | старшыня Гомельскага аблвыканкама |
| 35 | **Аляксандр Шпілеўскі** | старшыня Мытнага камітэта |
| 36 | **Рыгор Кісель** | гендырэктар АНТ |
| 37 | **Мікалай Снапкоў** | міністр эканомікі |
| 38 | **Уладзімір Канаплёў** | старшыня Федэрацыі гандбола |
| 39 | **Пятро Руднік** | старшыня Магілёўскага аблвыканкама |
| 40 | **Сяргей Міхалок** | спявак, лідар гурту «Ляпіс Трубяцкой» |
| 41 | **Аляксандр Базанаў** | дырэктар Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта |
| 42 | **Анатоль Тарнаўскі** | генеральны прадстаўнік «Юнівест» па краінах СНД |
| 43 | **Мікалай Лукашэнка** | малодшы сын кіраўніка краіны |
| 44 | **Сяргей Сідорскі** | былы прэм'ер-міністр |
| 45 | **Анатоль Капскі** | генеральны дырэктар завода БАТЭ, кіраўнік футбольнага клуба БАТЭ |
| 46 | **Аляксандр Радзькоў** | першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, лідар «Белай Русі» |
| 47 | **Максім Рыжанкоў** | памочнік прэзідэнта ў пытаннях спорту |
| 48 | **Усевалад Янчэўскі** | памочнік прэзідэнта па ідэалогіі |
| 49 | **Ігар Рачкоўскі** | першы віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта |
| 50 | **Філарэт** | праваслаўны Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Экзарх усяе Беларусі |
| 51 | **Уладзімір Андрэйчанка** | спікер палаты прадстаўнікоў |
| 52 | **Анатоль Калінін** | віцэ-прэм'ер |
| 53 | **Андрэй Харкавец** | міністр фінансаў |
| 54 | **Сяргей Гурулёў** | старшыня Вайскова-прамысловага камітэта |
| 55 | **Аляксандр Боечка** | старшыня Памежнага камітэта |
| 56 | **Аляксандр Машэнскі** | уласнік «Санта-Брэмар» і «Савушкава-га прадукту», ганаровы консул Ісландыі ў Беларусі |
| 57 | **Тадэвуш Кандрусевіч** | каталіцкі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп |
| 58 | **Мікола Статкевіч** | палітвязень, экс-кандыдат у прэзідэнты |
| 59 | **Сяргей Румас** | старшыня праўлення Банка развіцця Беларусі, старшыня Беларускай федэрацыі футбола |
| 60 | **Алесь Бяляцкі** | палітвязень, праваабаронца, кандыдат на Нобелеўскую прэмію |
| 61 | **Павел Севярынец** | палітвязень, сустаршыня Хрысціянскай дэмакратыі |
| 62 | **Алег Праляскоўскі** | міністр інфармацыі |
| 63 | **Юрый Зісер** | уласнік партала Tut.by |
| 64 | **Святлана Калінкіна** | шэф-рэдактарка газеты «Народная воля» |
| 65 | **Зянон Пазняк** | лідар Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ, эмігрант |
| 66 | **Андрэй Тур** | намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта |
| 67 | **Віталь Арбузаў** | уласнік кампаніі Fenox Automative Gmbh |
| 68 | **Віктар Зураеў** | кіраўнік «Алмаза» |
| 69 | **Аляксандр Мілінкевіч** | лідар Руху «За Свабоду» |
| 70 | **Жанна Літвіна** | старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў |
| 71 | **Юрый Караеў** | намеснік міністра ўнутраных справаў |
| 72 | **Віктар Камянкоў** | старшыня Вышэйшага Гаспадарчага Суда |
| 73 | **Валянцін Сукала** | старшыня Вярхоўнага Суда |
| 74 | **Вікторыя Азаранка** | тэнісістка |
| 75 | **Павел Латушка** | пасол Беларусі ў Францыі |
| 76 | **Хасалбек Атабекаў** | кіраўнік вайсковай часці 3214 |
| 77 | **Сяргей Хусаенаў** | уласнік кампаніі «Зубр Капітал» |
| 78 | **Валерый Іваноў** | генеральны дырэктар «Беларуськалія» |
| 79 | **Сяргей Маскевіч** | міністр адукацыі |
| 80 | **Яўген Шыгалаў** | дырэктар рынку «Ждановічы» |
| 81 | **Іосіф Сярэдзіч** | галоўны рэдактар газеты «Народная воля» |
| 82 | **Валерый Цапкала** | дырэктар Беларускага парка высокіх тэхналогій |
| 83 | **Аркадзь Добкін** | старшыня рады дырэктараў EPAM Systems |
| 84 | **Лявон Вольскі** | спявак |
| 85 | **Фёдар Поўны** | праваслаўны протаіерэй |
| 86 | **Валянцін Шаеў** | старшыня Следчага камітэта |
| 87 | **Наталля Радзіна** | галоўная рэдактарка сайта «Хартыя-97» |
| 88 | **Віталь Шураўка** | уласнік партала Onliner.by |
| 89 | **Уладзімір Някляеў** | паэт, палітык, лідар кампаніі «Гавары праўду» |
| 90 | **Сяргей Пісарык** | старшыня праўлення «Беларусбанка» |
| 91 | **Сяргей Абламейка** | рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта |
| 92 | **Уладзімір Шымаў** | рэктар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта |
| 93 | **Павел Тапузідзіс** | уласнік «Тытунь-Інвест» і «Кароны» |
| 94 | **Сяргей Цяцерын** | віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта |
| 95 | **Аляксандр Азярэц** | міністр энергетыкі |
| 96 | **Анатоль Лябедзька** | старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі |
| 97 | **Уладзімір Арлоў** | пісьменнік |
| 98 | **Сяргей Мусіенка** | сацыёлаг, кіраўнік цэнтра ЕСООМ |
| 99 | **Аляксей Ваганаў** | уласнік кампаніі «Лада Гарант» |
| 100 | **Васіль Жарко** | міністр аховы здароўя |

**Рэйтынг дапамагалі складаць:**

**Максім Беразінскі**, кіраўнік партала Goals.by

**Віталь Валянюк**, галоўны рэдактар агенцтва «Бізнэс-навіны», былы палітычны аглядальнік «Советской Белоруссіі»

**Алесь Герасіменка**, аглядальнік «Эканамічнай газеты»

**Адам Глобус**, пісьменнік, выдавец

**Ігар Губарэвіч**, прадпрымальнік, былы супрацоўнік Міністэрства замежных справаў

**Юрый Дракахруст**, палітычны аглядальнік радыё «Свабода»

**Аляксандр Зімоўскі**, былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі

**Святлана Калінкіна**, шэф-рэдактарка «Народнай волі»

**Уладзімір Мацкевіч**, метадолаг

**Аляксандр Чубрык**, дырэктар Даследчага цэнтра ІПМ

**Тэксты пісалі:**

Зміцер Панкавец, Ягор Марціновіч

# Аляксандр Лукашэнка



AP IMAGES

Кіраўнік краіны.

Прэзідэнт у Беларусі мае неабмежаваную ўладу і, практычна, дыктатарскія паўнамоцтвы. Яму падпарадкаваныя ўсе галіны ўлады: заканадаўчая, выканаўчая і судовая. Беларусь называюць «апошняй дыктатурай Еўропы».

Лукашэнка кіруе Беларуссю ўжо 19 гадоў, больш чым Брэжнеў — Савецкім Саюзам.

Лукашэнка ўмешваецца ў самыя розныя пытанні: ад эканомікі да спорту, ад выпуску слуцкіх паясоў да вытворчасці мармуровага мяса. Яго ным хобі з'яўляецца хакей. Публічна гаворыць толькі па-руску, па-беларуску за 19 гадоў выступаў усяго некалькі разоў.

Мае трох сыноў. Сістэмы ўлады і прапаганды збудаваны так, што ўлада можа перайсці аднаму з іх, але сам Лукашэнка абвяргае такое жаданне.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1954 у Копысі (Аршанскі раён). Гадаваўся ў вёсцы Александрыя (Шклоўскі раён). Скончыў Магілёўскі педінстытут (1975) і Горацкую сельгасакадэмію (1985). Служыў у памежных войсках КДБ СССР (1975—1977). У 1977—1978 — сакратар камітэта камсамола Магілёўскага гархарчгандлю. У 1978—1980— адказны сакратар Шклоўскай раённай арганізацыі Усесаюзнага таварыства «Веды». Ад 1979 — член КПСС. У 1980—1982 — палітрук ва Узброеных сілах СССР. У 1982—1983 быў намеснікам дырэктара калгаса «Ударнік» (Шклоўскі раён). У 1983—1985 быў намеснікам дырэктара камбіната будматэрыялаў у Шклове. У 1985—1987 — сакратар парткама калгаса імя Леніна Шклоўскага раёна. Ад 1987 года — дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна. У 1989 балатаваўся на выбарах народных дэпутатаў СССР, але прайграў Вячаславу Кебічу. У 1990 абраны ў Вярхоўны Савет. У 1994 абраны прэзідэнтам Беларусі.

**«Народ беларускі рызыкнуў і абраў мяне прэзідэнтам. Гэта бывае надзвычай рэдка ў гісторыі і больш, магчыма, не будзе».**

# Віктар Лукашэнка

Памочнік прэзідэнта па бяспецы.



BELAPAN.COM

Старэйшы сын Лукашэнкі. На ранніх здымках ён вельмі падобны да бацькі, асабліва позіркам. Лукашэнка паступова ўвёў сына ў кіраўніцтва краіны, пачынаючы з невялікіх пасад. Аналагічна Гейдар Аліеў вывеў у людзі сына Ільхама, які займаў ключавыя пасады ў Дзяржаўнай нафтавай кампаніі і партыі «Новы Азербайджан». Віктар Лукашэнка займаецца сілавымі структурамі, на якія абапіраецца ўлада ў Беларусі.

Віктар Лукашэнка ніколі не выступае публічна. Эвалюцыя яго ных поглядаў у 2000-я гады застаецца невядомай.

Ва ўладу прыйшоў пазней за перыяд знікненняў лідараў апазіцыі ў канцы 1990-х. Разгон Плошчы-2006 і пагром Плошчы-2010 здарыліся пры ім.

**«У нашай сям'і не прынята, каб дзеці лезлі ў тыя пытанні, якія вырашае бацька».**

Адзінае інтэрв'ю. «Камсамольская праўда», 2003.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1975 на Магілёўшчыне. Скончыў факультэт міжнародных адносінаў БДУ (1999). Служыў у спецпадраздзяленні памежных войскаў АСАМ. Быў ганараваны медалём «За выдатнасць у ахове дзяржаўнай мяжы». Ад 2001 быў супрацоўнікам МЗС (трэцім сакратаром, дарадцам у аддзеле Заходняй Еўропы). Ад красавіка 2003 працаваў начальнікам аддзела замежнаэканамічных сувязяў УП «НДІ сродкаў аўтаматызацыі». Ад 2005 — памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы. Жонку завуць Лілія, у іх трое дзяцей.

# Міхаіл Мясніковіч

Прэм'ер-міністр.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Чалавек, запатрабаваны пры любой уладзе. Мясніковіч быў першым віцэ-прэм'ерам ва ўрадзе Вячаслава Кебіча і нават кіраўніком яго нага выбарчага штаба. Гэта не перашкодзіла яму пасля перамогі Лукашэнкі застацца ва ўрадзе і на доўгі час узначаліць прэзідэнцкую адміністрацыю.

У Мясніковіча рэпутацыя чалавека, які можа вырашыць любое гаспадарчае пытанне.

Мясніковіч выглядае старэйшым за свой век. Можа, таму Лукашэнка заўсёды звяртаецца да яго на «Вы». Імідж «моцнага гаспадарніка» прымушае прыслухоўвацца да словаў Мясніковіча.

Прэм'ер не забываецца і на малую радзіму. Агракамбінат «Сноў» стаў адным з узорных прадпрыемстваў краіны. Калі «па сукупнасці заслуг» прэм'еру надалі б званне Героя Беларусі, як і былому старшыні «Снова» Міхаілу Карчміту ці старшыні Нацбанка Пятру Пракаповічу, ніхто б не здзівіўся. Калі б на яго, наадварот, павесілі адказнасць за ўсе эканамічныя праблемы краіны і адправілі ў адстаўку ці нават яшчэ далей, ніхто б не здзівіўся таксама.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1950 у вёсцы Новы Сноў Нясвіжскага раёна. Скончыў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1972), Мінскую Вышэйшую партыйную школу (1989). Доктар эканамічных навук.

У 1973—1977 — інжынер «Мінскводаканала», у 1977—1983 — галоўны інжынер, кіраўнік упраўлення прадпрыемстваў камунальнага абслугоўвання Мінгарвыканкама. У 1983—1985 — у кіраўніцтве Савецкага райсавета Мінска, у 1985—1986 — сакратар Мінскага гаркама КПБ. У 1986—1990 — міністр ЖКГ БССР. У 1990—1991 — старшыня камітэта БССР па эканоміцы і планаванні. Віцэ-прэм'ер (1990—1995), кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (1995—2001), кіраўнік Акадэміі навук (2001—2010). Са снежня 2010 — прэм'ер-міністр. Жанаты, мае сына й дачку.

# Валерый Вакульчык

4

Старшыня КДБ.



«Хтосьці вас не любіць, хтосьці недалюблівае, але толькі з адной прычыны: праз вашу сумленнасць і прынцыповасць», — з такімі словамі Лукашэнка прызначаў Вакульчыка на пасаду старшыні Следчага камітэта. Вакульчык доўгі час працаваў у памежнай контрвыведцы. Таму яго звязваюць з імёнамі Віктара Лукашэнкі і Ігара Рачкоўскага. Давер да Вакульчыка можна патлумачыць тым, што менавіта яму выпала «ставіць на ногі» абсалютна новыя сілавыя ведамствы — Аператыўна-аналітычны цэнтр і Следчы камітэт.

Вакульчык — адзін з нямногіх ураджэнцаў Беларусі сярод сілавікоў.

**«Мы павінны дэманстраваць абсалютнае выкананне закона».**

Кастрычнік 2011.

**Аб'ектыўка**

Нар. у вёсцы Радастава (Драгічынскі раён). Скончыў Харкаўскае гвардзейскае вышэйшае танкавае камандное вучылішча, Вышэйшыя курсы вайсковай контрвыведкі КДБ СССР, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. У 1985—1991 гадах праходзіў вайсковую службу ва Узброеных сілах, у 1991—2008 — у органах дзяржаўнай бяспекі. Ад 2008 года быў начальнікам Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце, ад кастрычніка 2011 — старшыня Следчага камітэта. Ад лістапада 2012 — старшыня КДБ.

# Андрэй Кабякоў

5

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта.

Разам з Васілём Даўгалёвым яны працавалі на рагачоўскім заводзе «Дыяпраектар». Калі Даўгалёў пайшоў на павышэнне ў Мінск, то забраў з сабой і Кабякова. З часам Кабякоў перарос свайго апекуна.

Сённяшні кіраўнік Адміністрацыі мае нестандартную адукацыю — скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут.

Кабякоў мае рэпутацыю «працаголіка», ён на працы ад 8 да 21, часам і на выходных. Ёсць такая легенда, што сына Кабякова хрысціў асабіста Лукашэнка. А яшчэ Кабякоў, які Пракаповіч, заўсёды мае на твары крыху вінаватую ўсмешку.

Па сваёй пасадзе адказвае за расстаноўку кадраў на розных узроўнях.

Жанаты, мае сына і дачку.


PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аб'ектыўка**

Нарадзіўся ў 1960 у Маскве. Скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут (1983), Мінскі наргас і Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання КПБ (1991). Працаваў на заводзе «Дыяпраектар» (1985—1995). Намеснік начальніка Службы дзяржкантролю (1995—1998). Старшыня КДК (1998—2000). Віцэ-прэм'ер (2000—2002, 2003—2008). Міністр эканомікі (2002—2003). Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта (2008—2010). Пасол Беларусі ў Расіі (2011—2012). Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта ад 2012.

**«А што мне рабіць у Маскве? Нікуды з'язджаць з нашай краіны я не збіраюся».**

Лістапад 2011.

# Уладзімір Макей

6



Міністр замежных справаў.

У публічную палітыку Уладзімір Макей увайшоў падчас выбараў 2001 года. Менавіта «дыпламат Макей» і «доктар Абельская» па Беларускім тэлебачанні агучвалі праграму Аляксандра Лукашэнкі. Думаецца, на іх месцы хацелі быць многія. Потым Макею было даручана «выхаванне» Віктара Лукашэнкі, навучыць яго працы ў Адміністрацыі.

Макей — разведчык, адзін з нямногіх лукашэнкаўцаў, хто добра валодае англійскай і нямецкай мовамі.

З імём Макея звязвалі адлігу 2008—2010. Але той самы Макей у 2012 гразіў, што «ад апазіцыі каменя на камені не застанецца» ў выпадку ўвядзення санкцый Еўрасаюза.

На сваёй пасадзе міністр замежных справаў у гэтай сістэме адказвае за адносіны з Захадам, а не з Расіяй. Аднак уплыў Макея большы, чым ягоныя абавязкі. Гэта тлумачаць як тым фактам, што ён доўгія гады расстаўляў кадры розных узроўняў як кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, так і ягоным інтэлектам.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1958 у вёсцы Некрашэвічы Карэліцкага раёна. Скончыў Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моваў (1980), служыў у савецкай разведцы (1980—1992), палкоўнік запасу. Перавучваўся ў Дыпламатычнай акадэміі МЗС Аўстрыі (1992—1993). У 1993—2000 знаходзіўся на дыпламатычнай службе. У 2000—2008 гадах працаваў памочнікам прэзідэнта. Ад 2008 да 2012 займаў пасаду кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ад жніўня 2012 — міністр замежных справаў. Уключаны ў спіс невыязных на тэрыторыю ЕС. Жанаты другім шлюбам. Мае дзяцей ад абодвух шлюбаў. Другая жонка — актрыса і тэлевядучая.

**«Беларусь гатовая да эвалюцыі і мадэрнізацыі».**

Самы разгар «лібералізацыі», лістапад 2009.

# Юрый Чыж

7

Уласнік кампаніі «Трайпл».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Самы багаты бізнэсовец краіны — выдатны прыклад дзяржаўна-прыватнага партнёрства ў беларускіх рэаліях. Чыж будуе лядовы каток для студэнтаў — таму атрымлівае супердарагую зямлю пад гмах ля Траецкага прадмесця. Чыжу даручаюць узвесці «комплекс будынкаў для абслугоўвання дэлегацый» у Белавежскай пушчы — значыца, ён можа разлічваць на нешта ў адказ. Напрыклад, на зямлю ў Мінску ці на большую квоту на пастаўку нафты.

Выхадзец са шматдзетнай баптысцкай сям'і Юрый Чыж дасягнуў максімальна магчымага ў сучасным беларускім прыватным бізнэсе. Гадзіннік за $400 тысяч і 25 звольненых трэнераў ягонага футбольнага «Дынама» выдатна пасуюць ягонаму аўтарытарнаму стылю кіравання.

**«У жонкі дачка неяк спытала: «Мама, а тата ходзіць у хакей гуляць ці як на працу?» Я б на яе месцы задумаўся».**

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1963 у вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна. Скончыў БНТУ. Уласнік розгалінаваной бізнэс-імперыі «Трайпл», мае інтарэсы ў нафтавым сектары, нерухомасці, гандлі, вытворчасці будматэрыялаў, грамадскім харчаванні, турызме, спорце, сельскай гаспадарцы. Трапіў пад санкцыі Еўрасаюза як «кашалёк Лукашэнкі».

# Андрэй Уцюрын

Начальнік службы аховы прэзідэнта.



8

Угледзьцеся і заўсёды ўбачыце побач з кіраўніком краіны гэтага крэпкага лысаватага мужчыну. Ён суправаджае Лукашэнку ва ўсіх паездках, як унутры краіны, так і за мяжу. Нярэдка сядзіць побач з Віктарам Лукашэнкам. Уцюрын «ва ўладзе» ад часоў Ганебнага рэферэндуму 1995. Хто можа пахваліцца такім доўгажыхарствам?

Ягоны бацька яшчэ за савецкім часам быў камандзірам часці спецназа 3214. Людзі, якія працавалі разам з Уцюрыным, характарызуюць яго як «разумнага і хітрага чалавека».

**«Калі службе аховы даводзіцца ўжываць зброю, гэта сведчыць пра нізкі прафесіяналізм».**

Снежань 2008.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1971 у Пензе. У 1992 скончыў Саратаўскае вышэйшае вайсковае каманднае вучылішча МУС Расіі, а ў 2002 годзе — Акадэмію МУС Беларусі. Ад 1995 — у Службе аховы Лукашэнкі. Узнагароджаны ордэнамі «За бездакорную службу» і «За службу Радзіме». Кіраўнік Службы аховы ад 2007 года.

# Уладзімір Сямашка

9

Першы віцэ-прэм'ер.



Ва ўрадзе Уладзімір Сямашка адказвае за самыя важныя сферы — пастаўкі энерганосьбітаў, прамысловасць і энергетыку. Ён каардынуе кантакты з усходнім суседам, ад продажу МАЗа да будаўніцтва Астравецкай АЭС, за якое Сямашка, як і за ўсё іншае, «адказвае галавой».

У такіх пытаннях не да сантыментаў. Дастаецца і сваім. «Вы не лічыцеся з меркаваннем сваіх калегаў, праяўляеце адкрытую грубасць, часам нястрыманасць. Я б вас папрасіў перастаць канфліктаваць з тымі людзьмі, якія прызначаныя прэзідэнтам», — заявіў на днях Лукашэнка.

Па меркаванні Аляксандра Фядуты, Сямашка — чалавек без вялікіх амбіцый, але ўваходзіць у самае блізкае кола Лукашэнкі.

**«Мы павінны да канца 2015 года мець сярэдні заробак $1000».**

Чэрвень 2012.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1949 у Калінкавічах (Гомельская вобл.). Закончыў БНТУ (1972). Пасля службы ў войску (1972—1974) працаваў на «Інтэграле» (1974—1996). У 1996—2001 — генеральны дырэктар «Гарызонта». У 2001—2003 — міністр энергетыкі. Са снежня 2003 — першы віцэ-прэм'ер Беларусі.

# Віктар Шэйман

10

Кіраўнік справаў прэзідэнта.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Калі мы распачыналі наша апытанне, то Віктар Шэйман займаў сціплую пасаду памочніка па асаблівых даручэннях, што прадугледжвала візіты ў Венесуэлу і іншыя краіны «трэцяга свету». Здавалася, што Шэйман ужо не іае таго ўплыву, які меў зусім нядаўна. Але эксперты ўсё адно называлі яго адным з першых.

Шэймана баяцца. Злавесны шлейф цягнецца за ім ад 1999, калі ў бытнасць Шэймана дзяржсакратаром Рады Бяспекі зніклі без слядоў генерал Захаранка, а таксама Ганчар і Красоўскі. У 2008 Шэйман страціў высокую пасаду, але не ўплыў. Ён паранейшаму бярэцца за самыя складаныя даручэнні.

Цікава, што менавіта голас Віктара Шэймана пазітыўна вырашыў пытанне аб зацвярджэнні бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні» ў 1991. А яшчэ Шэйман уваходзіў у нацыянальна скіраванае Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў, якое ўзначальваў Мікола Статкевіч.

**«Асартымент паслуг у Беларусі ў разы ніжэйшы, чым у заходніх краінах».**

Чэрвень 2012.

**Аб'ектыўка**

Нарадзіўся ў 1958 у вёсцы Салтанішкі (Воранаўскі раён). Служыў у Савецкай Арміі, у тым ліку ў Афганістане. У 1990—1995 быў дэпутатам Вярхоўнага Савета ад вайсковага раёна Брэста. У 1994—2000 займаў пасаду дзяржаўнага сакратара Рады Бяспекі. У 2000—2004 — генеральны пракурор. Ад 2004 да студзеня 2006 — кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта. Узначальваў перадвыбарны штаб Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах. Ад сакавіка 2006 — дзяржсакратар Рады Бяспекі Беларусі. У ліпені 2008 быў адпраўлены ў адстаўку праз выбух на Дзень Рэспублікі. Быў памочнікам Лукашэнкі па асаблівых даручэннях. Ад студзеня 2013 — кіраўнік справаў прэзідэнта.

# Барыс Батура

11

Старшыня Мінаблвыканкама.

Самы вопытны з губернатараў ачольвае самую багатую вобласць краіны — Мінскую. 66-гадовы Барыс Батура адносіцца да таго ж пакалення чыноўнікаў, што і Міхаіл Мясніковіч. Яны не агучваюць сваіх палітычных амбіцый і застаюцца пры ўладзе пры любым начальніку.

На Міншчыне Батура, сярод іншага, прасоўвае праекты з удзелам кітайцаў — рэканструкцыю аэрапорта «Мінск-2», тэхнапарк. Гэтыя праекты закрытыя ад грамадскасці, таму ацаніць іх выгаду беларусы не могуць. Затое праца Батуры задавальняе Аляксандра Лукашэнку. У параўнанні з іншымі губернатарамі Батуру крытыкуюць значна менш.



SOVREP.BY

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1947 у Ваўкавыску. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1970). Працаваў у сферы ЖКГ. У 1990—1999 — міністр ЖКГ. У 1999—2000 — віцэ-прэм'ер. У 2000—2010 — старшыня Магілёўскага аблвыканкама, у 2008—2010 — старшыня савета рэспублікі. Ад 2010 — старшыня Мінаблвыканкама.

**«Я не гаспадзін, я таварыш!»**

Жыхарам Смалявіччыны, 2012.

# Аляксандр Якабсон

12

Старшыня Камітэта дзяржкантролю.

Структура, якую ўзначальвае 62-гадовы ўраджэнец Гомеля, наводзіць страх на тысячы арганізацый і ўстановаў краіны. Не дай Бог гэтай праверкі! Да Якабсона на гэтым месцы працаваў Зянон Ломаць.

Шмат гадоў Аляксандр Серафімавіч аддаў будаўніцтву, потым быў мэрам Светлагорска. Якраз у той час, як горад атрымаў славу праз вялікую колькасць наркаманаў і ВІЧ-інфікаваных.

Кажуць, што ў Якабсона абсалютна адсутнічае творчы пачатак. Звычайны выканаўца.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1951 у Гомелі. Скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, Мінскі інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання. Служыў у войску. Ад 1975 працаваў у «Гомельпрамбудзе» — ад майстра да галоўнага інжынера. У 1986—1996 — старшыня Светлагорскага гарвыканкама. Дэпутат Вярхоўнага Савета (1990—1996), палаты прадстаўнікоў (1996—2000). Старшыня Гомельскага аблвыканкама ў 2001—2010. У 2010 прызначаны кіраўніком КДК.

**«Тут трэба штосьці рабіць!»**

Пра сайты, якія «сеялі паніку» падчас фінансавага крызісу 2011.

# Ігар Шуневіч

13

Міністр унутраных справаў.

Міністэрскае крэсла Шуневіч займае менш за год. Дурацыяў за гэты час не нагаварыў. Дый увогуле гаворыць мала, нават калі параўнаць з папярэднімі міністрамі Куляшовым і Навумавым. Шуневіч у МУС «свой сярод чужых», бо доўгі час адпрацаваў у КДБ — структуры, з якой міліцыя заўсёды мела негалосны канфлікт.

Пасля Плошчы Шуневіч цягаўся на гутаркі ў камеры да палітвязняў.

Менавіта Шуневічу даверанная рэформа ў міністэрстве, паводле якой міліцыянтаў павінна стаць меней, але атрымліваць яны будуць болей.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1967 на Украіне (Луганская вобласць). У 1992 скончыў Акадэмію міліцыі МУС Беларусі, служыў у міліцыі. У 2007—2012 працаваў у КДБ. У студзені 2012 прызначаны першым намеснікам міністра ўнутраных справаў, у маі таго ж года — міністрам.

**«Беларусь заўсёды ўжывала прынцып гуманізму да зняволеных, даючы ім шанец вызваліцца датэрмінова».**

Чэрвень 2012.

# Уладзімір Пефціеў

14

Былы старшыня праўлення «Белтэхэкспарту».

Калісьці самы багаты бізнэсоўца Беларусі пакрысе змяншае свой уплыў у краіне. Пефціеў прадаў «Белтэхэкспарт», які прынасіў яму ў 1990-я шматмільённыя прыбыткі. Гэта здарылася пасля ўвядзення санкцый Еўрасаюза.

Але Беларусь — не адзіны пункт бізнэсінтарэсаў Пефціева. Ягонае імя гучала ў сувязі з Мальтай і Арабскімі Эміратамі, таму «чорны спіс» трохі звужае ягоныя магчымасці. Летась пісалі, што бізнэсовец гатовы заплаціць мільён даляраў любому, хто дапаможа выкрасліць яго адтуль.

Узыходам у бізнэс-эліту Пефціеў шмат у чым абавязаны былому прэм'ер-міністру Вячаславу Кебічу. З яго дазволу «Белтэхакспарт» пачаў распрадаваць узбраенне, якое засталося на тэрыторыі Беларусі з часоў СССР.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1957 у Бярдзянску (Украіна). Валодаў холдынгам «Белтэх», заводам гарэлкі «Аквадыў», правайдарам «Дзелавая сетка», латарэяй «Спорт-пары», быў старшынёй Беларускай тэніснай федэрацыі. У 2012 перадаў кантрольны пакет акцый групы кампаній ЗАТ «Кіруючая кампанія «Белтэх Холдынг», у якую ўваходзіць ЗАТ «Белтэхэкспарт» расійскаму бізнэсмэну Дзмітрыю Гурыновічу.



PHOTO.BYMEDIA.NET



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Пятро Пракаповіч

15

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1942 у вёсцы Казлы Пружанскага раёна. Закончыў Днепрапятроўскі інжынерна-будаўнічы інстытут (1966). Працаваў на цаліне. У 1976—1996 — галоўны інжынер, а пасля гендырэктар «Брэстаблсельбуда». Дэпутат Вярхоўнага Савета (1990—1995). У 1996—1998 — першы віцэ-прэм'ер, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, у 1998—2011 — кіраўнік Нацбанка, у 2012—2013 — памочнік Аляксандра Лукашэнкі. Ад 2013 — віцэ-прэм'ер.

Віцэ-прэм'ер, Герой Беларусі.

70-гадовы Герой Беларусі падабраўся да вяршыні свайго жыцця. З пасады віцэ-прэм'ера, адказнага за скарачэнне дзяржаўных выдаткаў у год пікавых выплат па ранейшых крэдытах, угару ўжо не скокнеш. Цісну́ць на плечы будзе і статус «бацькі дэвальвацыі», хоць спускаць усіх сабак на аднаго толькі Пракаповіча было б несправядліва.

Умелы брэсцкі будаўнік трымаецца непадалёку ад стырна краіны доўгія 17 гадоў і гатовы працаваць яшчэ, нягледзячы на складаную аперацыю на сэрцы. Пракаповіч паспеў дапамагчы нацбанкаўскімі грашыма Тамашоўцы, дзе прайшло яго дзяцінства, ахапіць трывалымі наменклатурнымі сувязямі ўсю Брэстчыну ды нават незнарок упісаць сваё прозвішча ў гісторыю беларускага інтэрнэту.

**«Пакуль я старшыня Нацбанка, дэвальвацыі, большай за 5%, не будзе».**

Перад дэвальвацыяй у 3 разы ў 2011.

# Надзея Ермакова

16

Старшыня праўлення Нацбанка.

У большасці краін свету старшыня галоўнага банка краіны — чалавек, ад якога залежыць фінансавая палітыка. Але не ў Беларусі. Традыцыі, закладзенай Пятром Пракаповічам, трымаецца і ягоная наступніца, адна з прадстаўнікоў «шклоўскіх» ва ўладзе Надзея Ермакова. Яе задача зводзіцца да выканання плана, задуманага адміністрацыяй Аляксандра Лукашэнкі, — напрыклад, узняць ці апусціць курсы валют і стаўку рэфінансавання, надрукаваць патрэбны міністэрству прамысловасці аб'ём рублёў і гэтак далей. Аднак нават у гэтых жорсткіх рамках у старшыні Нацбанка застаецца пэўнае поле для манеўраў. А перадусім яна ўплывае на рашэнні прэзідэнта інфармацыяй, якую збірае і падае Нацбанк.

Надзея Ермакова нязменна кіруе саюзам жанчын ужо 14 гадоў. Пад яе ўладай арганізацыя савецкага тыпу, у якую ўваходзяць 170 тысяч чалавек, застаецца фармальнай установай накшталт прафсаюзаў.

**«Абутак завозіцца імпартны. Так, ён стане даражэйшым, але нічога страшнага, будзем насіць замест дзвюх пар туфляў адну».**

Пра дэвальвацыю, 2011.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1953 у вёсцы Разальмова Хоцімскага раёна. Закончыла Пінскі ўлікова-крэдытны тэхнікум (1971), Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (1978). Працавала крэдытным інспектарам, кіраўніцай магілёўскіх раённых аддзяленняў Дзяржбанка, намесніцай старшыні Шклоўскага райвыканкама, кіраўніком аддзялення «Белаграпрамбанка» ў Шклове. Старшыня Беларускага саюза жанчын ад 1999. У 1996—2011 — намесніца старшыні, пасля старшыня «Беларусбанка». Ад 2011 — кіраўніца Нацбанка.



# Юрый Жадобін

17



PHOTO.BYMEDIA.NET

Міністр абароны.

Армія ў разборках беларускіх сілавікоў заўсёды займала ролю назіральніка. Жадобін — прафесійны вайсковец, танкіст. У пачатку 2000-х ён стаў кіраўніком службы аховы прэзідэнта. Значыць, меў давер Лукашэнкі. Потым генерала Жадобіна адпраўлялі на павышэнні ў КДБ, Раду Бяспекі, але на неўласцівых пасадах ён трымаўся не надта ўпэўнена. Стыхія Жадобіна — войска. Таму ракіроўка з Мальцавым, здаецца, задаволіла абодвух. Жадобін — адзін з нямногіх лукашэнкаўскіх чыноўнікаў, хто здольны ўсміхацца. Магчыма, за ўменне расказаць добры жарт яго так і цэніць Лукашэнка.

**«У супольнасць дэструктыўных элементаў уваходзіць усяго 1767 асобаў. Мы іх усіх ведаем пайменна».**

Пра апазіцыю,снежань 2007.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1954 у Днепрапятроўску (Украіна). Ва Узброеных Сілах ад 1972. Скончыў Казанскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча (1976), камандны факультэт Вайсковай акадэміі бранятанкавых войскаў (1985). У 1990—1999 — у сістэме грамадзянскай абароны Беларусі, ва Унутраных войсках МУС. Ад 2003 — начальнік Службы бяспекі прэзідэнта. У 2007—2008 — старшыня КДБ. Ад 2008—2010 — дзяржаўны сакратар Рады Бяспекі. Ад снежня 2010 — міністр абароны.

# Сяргей Шпягун

18

Кіраўнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра.

Чалавек з ідэальным прозвішчам. За ўвесь 2012 год у СМІ не было ніводнай згадкі пра Сяргея Шпегуна. Ёсць такі — усе ведаюць, а што ён робіць, апроч таго, што за інтэрнэтам сочыць... Эксперты высока паставілі Шпегуна, відаць, найперш праз брэнд ААЦ. Лукашэнка некалькі разоў казаў, што вельмі давярае гэтай спецслужбе, што месціцца ў адным квартале з прэзідэнтурай. Такім самым закрытым некалі быў і папярэднік Шпегуна Валерый Вакульчык, аднак пры прызначэнні ў КДБ быў вымушаны крыху выйсці з цяні.



BELTA.BY

**Аб'ектыўка**

Біяграфіі ў адкрытым доступе няма.

# Аляксандр Шакуцін

19

Старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор».

Хірург Аляксандр Шакуцін — адзін з нямногіх адкрытых бізнэсоўцаў ва ўладзе. Вось ужо другі тэрмін запар ён абіраецца членам савета рэспублікі. Гэта дазваляе лабіраваць інтарэсы «Амкадора», у склад якога ўваходзяць усё новыя і новыя прадпрыемствы. Прыбытак толькі галаўной кампаніі за 2011 год склаў $26 мільёнаў.

Мільянер мае багатую «сацыяльную» нагрузку. На пасадзе старшыні тэніснай федэрацыі ён змяніў Уладзіміра Пефціева. У лукашэнкаўскай «Белай Русі» Шакуцін увайшоў у склад рэспубліканскай рады, ёсць яго прозвішча і ў Радзе па развіцці прадпрымальніцтва.

Пратэжэ мільянера Алена Ланская сёлета ўсё ж паедзе на «Еўрабачанне». Леташняя спроба скончылася скандалам — вынікі нацыянальнага адбору былі сфальсіфікаваныя. Абвінавачаны ў гэтым Дзмітрый Баранаў цяпер працуе дырэктарам шакуцінскага прадзюсарскага цэнтра «Спамаш».



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1959 у вёсцы Вялікае Бабіна Аршанскага раёна. Закончыў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «хірург». Працаваў загадчыкам хірургічнага аддзялення 10-й мінскай бальніцы, дырэктарам медцэнтра МТЗ. У якасці прэзідэнта прадпрыемства «Праммедінвест» займаўся пастаўкамі медыцынскага абсталявання. Цяпер — старшыня рады дырэктараў холдынга «Амкадор», яго ж акцыянер. Старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор» (ад 2005), член савета рэспублікі (з 2008), старшыня Беларускай тэніснай федэрацыі (ад 2012).

# Наталля Пяткевіч

20

Памочніца прэзідэнта.

Пры ўсёй немілагучнасці назвы пасады Наталля Пяткевіч мае непасрэдны доступ да кіраўніка дзяржавы. Яна ўзначальвае прэзідэнцкую канцылярыю, як Паскробышаў пры Сталіну, а Марцін Борман пры Гітлеру.

Пяткевіч увайшла ў кіроўныя эліты за максімальна кароткі час. Спачатку амбітная супрацоўніца ўпраўлення дзяржаўнага і міжнароднага права Адміністрацыі прэзідэнта стала прэс-сакратаркай Лукашэнкі, а праз тры гады працы вярнулася ў Адміністрацыю намесніцай кіраўніка. Менавіта гэтай «жалезнай лэдзі» беларускай палітыкі даводзілася агучваць непапулярныя рашэнні, як было з адменай ільготаў ці адмовай у амністыі жанчынам з дзецьмі. Цяпер Пяткевіч разам з Кабяковым даверана правесці скарачэнне дзяржаўных органаў.

**«Я знаходжу спонсараў — нагамі, галавой, рукамі!»**

З пасяджэння Нацыянальнага алімпійскага камітэта, жнівень 2011.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1972 у Мінску. Яе тата — загадчык стаматалагічнай паліклінікі. Скончыла юрфак БДУ (1994). У 2001 прызначаная прэс-сакратаркай Лукашэнкі. У 2004—2010 — намесніца, пасля першая намесніца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. У 2006 ёй быў забаронены ўезд на тэрыторыю Еўрасаюза і ЗША. Кандыдат юрыдычных навук. Ад верасня 2011 узначальвае прэзідэнцкую канцылярыю.

Першы муж — Уладзіслаў Пяткевіч, кіраўнік «Нацыянальных спартыўных латарэй», другі — Аляксандр Мартыненка, былы намеснік гендырэктара Белтэле-радыёкампаніі.

# Мікалай Ладуцька

21

Старшыня Мінгарвыканкама.

Мікалай Ладуцька кіруе Мінскам ужо чацвёрты год, аднак так і не здолеў заваяваць аўтарытэт у гараджан. Ладуцька запамінаецца перадусім публічнымі вывалачкамі, якія атрымлівае ад кіраўніка дзяржавы. Прычым яму дастаецца за ўсё — за правальную інвестыцыйную палітыку, за бюракратызм, за карупцыю сярод падначаленых і нават за непрыбраны снег.

Ладуцька спыніў праграму па знішчэнні прыватнага сектару ў Мінску, распачатую ягоным папярэднікам Паўлавым. Уласнікі катэджаў уздыхнулі з палёгкай, чаго не скажаш пра жыхароў цэнтра. Пры Ладуцьку злавеснае слова «ўшчыльненне» стала для іх рэальнасцю.

Магчымасць размяркоўваць дарагую сталічную зямлю робіць мэра адным з самых уплывовых «гаспадарнікаў» краіны.

**«У горадзе практычна не засталося свабодных для ўзвядзення жылля тэрыторый. Не пазбегнуць таму і ўшчыльнення забудовы».**

2013.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1959 у Мінску. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1981), Акадэмію кіравання (2007). З пачатку 1980-х — на камсамольскіх пасадах. Ад 1990-га — у будаўнічай сферы, дарос да дырэктара Упраўлення камунальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама. У 2006—2007 — старшыня Фрунзенскага райвыканкама, у 2007—2010 — намеснік старшыні, выканаўца абавязкаў старшыні Мінгарвыканкама. Ад 2010 — старшыня Мінгарвыканкама.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Павел Якубовіч

22



PHOTO.BYMEDIA.NET

Рэдактар газеты «Советская Белорусія».

Ці адбудзецца аб’яднанне чатырох буйных дзяржаўных газет без Паўла Якубовіча — галоўная загадка беларускай афіцыйнай журналістыкі. Галоўны рэдактар «Саўбелкі», які даказаў сваю адданасць Лукашэнку, нібыта не гарыць жаданнем пераходзіць на новую пасаду.

...А ў савецкія часы Якубовіч быў проста яскравым журналістам. У ягоных фельетонах і нават у спартыўных рэпартажах чытачы знаходзілі дасціпны гумар з парадкаў у СССР. Але статус рэдактара самай тыражнай газеты Беларусі з цягам часу ператварыў Якубовіча ў галоўнага прапагандыста краіны.

Кажуць, працадаўца цэніць Якубовіча за надзвычайны інтэлект, веданне людзей і ўменне гаварыць непрыемныя рэчы ў твар.

**«[Многія начальнікі] глядзяць Хартыю’97».**

У эфіры БТ, 2012.

**Аб’ектыўка**

Нарадзіўся ў 1946 ва Унечы (Бранская вобласць, Расія). Закончыў Вышэйшую вайсковую вучэльню МУС і факультэт журналістыкі БДУ (1973). Працаваў у «Знамені юнасці», «Крыніцы», «Народнай газеце». Галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссія» (з 1995).

# Леанід Мальцаў

**«Праблем з беларускай мовай у войску не было і не будзе».**

На пытанне аб беларускамоўных прызыўніках, якім каманды аддаюць па-расейску, люты, 2008.

Дзяржсакратар Рады бяспекі.

Прафесійны вайсковец, які атрымаў добрую адукацыю ў гэтай сферы. Служыў у ГДР, на Далёкім Усходзе. У 1995 быў прызначаны міністрам абароны, але ўжо праз год быў звольнены за ўчынак, што «дыскрэдытуе вайсковае званне афіцэра». На юбілеі Мінскага медінстытута Лукашэнку падалося, што Мальцаў п’яны. Пасля гэтага і быў падпісаны загад аб звальненні. Праўда, пагаворвалі, што Лукашэнка проста баяўся, што міністр абароны падтрымае прыхільнікаў дэмакратыі. Праз пяць гадоў Мальцава вярнулі на старую пасаду. За час сваёй дзейнасці Мальцаў не быў заўважаны ані ў сяброўстве з Шэйманам, ані ў асаблівых адносінах з Віктарам Лукашэнкам, ніякай нелаяльнасці ці крытычных выказванняў ад яго таксама ніхто не чуў.

Генерал Валерый Фралоў казаў, што Мальцаў — гэта самы перадавы афіцэр беларускага войска.

23



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аб’ектыўка**

Нарадзіўся ў 1949 у Слонімскім раёне. Скончыў Мінскую сувораўскую вучэльню (1967), Кіеўскую вышэйшую камандную вучэльню (1971), Вайсковую акадэмію імя Фрунзэ (1979), Вайсковую акадэмію Генэральнага штаба (1992). Генерал-палкоўнік. Міністр абароны (1995—1996, 2001—2009).

# Лідзія Ярмошына

24

Старшыня ЦВК.

Наўрад ці шмат жыхароў еўрапейскіх дзяржаваў ведаюць імя чалавека, што ў іх краіне ўзначальвае Цэнтр-выбаркам. У Беларусі ж імя Лідзіі Ярмошынай стала агульным. У тых выпадках, калі гаворка вядзецца пра абсалютна невытлумачальныя, нічым не падмацаваныя вынікі, можна пачуць: «Ну ты і Ярмошына!»

Раз на некалькі гадоў Лідзія Ярмошына істотна ўплывае на лёс краіны. Ад яе словаў у дзень выбараў залежыць вельмі многае.

У прамежках паміж выбарамі Ярмошына часта дае інтэрв’ю, разважае пра палітыку і мужчын, наведвае тэатры, а таксама марыць з’ездзіць у Парыж. Праўда, у Еўрасаюз яна неўязная. Сябе яна называе «членам каманды Аляксандра Лукашэнкі». Не знойдзеце іншай краіны, дзе старшыня ЦВК называе сябе членам каманды прэзідэнта.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**«Жанчыны павінны не па плошчах бадзяцца, а сядзець дома і боршч варыць».**

У ноч выбараў 19 снежня 2010.

**Аб’ектыўка**

Нарадзілася ў 1953 у Слуцку, працавала юрысконсультам у Калінінградзе і Бабруйску. З 1992 — член ЦВК.

# Ірына Абельская

25

Галоўная доктарка Прэзідэнцкай бальніцы.

Некалі Аляксандр Лукашэнка прадставіў яе так: «Ірына Сцяпанаўна — мой асабісты ўрач».

Яе маці Людміла Пастаялка стала міністрам аховы здароўя.

Абельская абараніла доктарскую па тэме: «Шыйны остэаханdroz: прамянёвая візуалізацыя і тэхналогія медыцынскай рэабілітацыі пацыентаў».

**Аб’ектыўка**

Нар. у Брэсце. Скончыла Мінскі медыцынскі інстытут па спецыяльнасці «педыятрыя». У 1990—1994 — кансультант-эндакрынолаг у 9-й клінічнай бальніцы, адкуль перайшла у лечкамісію ў штат эндакрыналагічнага аддзялення доктарам вышэйшай катэгорыі. Галоўная доктарка прэзідэнцкай бальніцы, якую ў народзе па савецкай звычцы называюць лечкамісіяй (ад 2001 да 2007 і ад 2009).



**«Мы першыя адкрылі лабараторыю сну і змаглі дапамагаць пацыентам».**

Апошняе з’яўленне Абельскай у СМІ, лістапад, 2012.

# Дзмітрый Лукашэнка

26



Сярэдні сын Аляксандра Лукашэнкі.

Ён не надта ўпэўнена глядзіцца на тэлеэкранах. Перад камерай губляецца, словы гучаць няпэўна і недарэчна. Таму і трымаюць Дзмітрыя падалей ад журналістаў. Тым не менш, «некамерцыйны» прэзідэнцкі спартыўны клуб Дзмітрыя Лукашэнкі будуе жылы раён і кантралюе латарэі. І траціць больш за $2,5 мільёна на дабрачыннасць.

Жонка Дзмітрыя Ганна Лукашэнка доўгі час працавала ў кампаніі «Юнівест-М» алігарха Тарнаўскага. А яшчэ дзеці Дзмітрыя і Ганны перамаглі ў конкурсе сачыненняў на беларускай мове.

**«Праслізгвае інфармацыя, што прэзідэнцкі спортклуб шчодра фінансуецца з дзяржбюджэту. За пяць гадоў не выдаткавана ніводнага рубля з бюджэту».**

Інтэрв'ю БТ, ліпень 2010.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1980. Вырас пад Шкловам. Скончыў факультэт міжнародных адносін БДУ. Абараніў дыплом на тэму «Выступы беларускіх спартсменаў на міжнароднай арэне». Кіраўнік прэзідэнцкага спартовага клуба.

# Міхаіл Захараў

Хакейны трэнер.

27



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Першы са спартоўцаў, што займеў катэдж у Драздах.

У лютым гэтага года Захараў забыўся пра свой непасрэдны абавязак трэніраваць хакейны клуб «Юнацтва» і накіраваўся разам з Аляксандрам Лукашэнкам на адпачынак у Сочы, каб узяць удзел у гульні хакейнай каманды прэзідэнта. Захарава звязвае даўняе знаёмства з сям'ёй Лукашэнкі. Захараў разам з Лукашэнкам касіў траву ў Драздах. А калі трапіў п'яным у непрыемную аварыю на «Бэнтлі», то Лукашэнка толькі троху паўшчучваў свайго любімага хакеіста, але потым прабачыў.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1962 ва Усць-Каменагорску (Казахстан). Выступаў за каманды «Дынама» (Мінск) (1979—1990), «Подхале» (Новы Тарг, Польшча) (1990—1991). Ад 1991 да 1996 гуляў у фармклубах каманд НХЛ. Ад 2003 і да цяперашняга часу з'яўляецца галоўным трэнерам мінскага «Юнацтва».

**«Умовы падрыхтоўкі былі невыноснымі. Запусцілі жаночую зборную Фінляндыі. Яны без усялякага сораму хадзілі аголенымі. Нашы хлопцы былі абураныя, ламалі клюшкі».**

Пасля нявыхаду ў чвэрцьфінал Алімпіяды ў Ванкуверы, люты 2010.

# Сямён Шапіра

Старшыня Гродзенскага аблвыканкама.

Шапіра — адзін з нямногіх дактароў навук у беларускай уладзе, прычым такое ж званне меў і яго бацька, эканаміст-аграрнік Барыс Шапіра. У сярэдзіне 1990-х Сямён ўваходзіў у кіраўніцтва АГП і быў прыхільнікам рынкавай эканомікі.

Такую «правіну» яму прабачылі. Ён пралабіраваў узбуйненне агракамбіната «Дзяржынскі», стаў яго дырэктарам і дэманстраваў добрыя вынікі працы без вялікіх дзяржаўных датацый. Шапіра быў адным з ініцыятараў стварэння аграпрамысловых комплексаў ва ўсёй краіне. Поспех «Дзяржынскага» прывёў яго ў міністэрскую пасаду, а пасля — і ў губернатары.

Праўда, крэсла ў губернатара даволі хісткае. Летась Аляксандр Лукашэнка папярэджваў яго пра магчымую адстаўку.

Далейшую кар'еру Шапіры прадугадаць складана — ён можа і сысці ў старшыні калгаса, і трыумфальна вярнуцца ў Мінск.

**«Хто будзе ствараць беспарадкі, будзе бязлітасна пакараны!»**

Канфлікт на мяжы з чаўнакамі, 2011.

28



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1961 у вёсцы Рэчань на Любаншчыне. Закончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. Працаваў галоўным эканамістам і старшынёй калгаса ў Дзяржынскім раёне. У 1999—2004 — у структуры Міністэрства сельскай гаспадаркі, у 2004—2008 — генеральны дырэктар «Агракамбіната Дзяржынскі». У 2008—2010 — міністр сельскай гаспадаркі. Ад 2010 — старшыня Гродзенскага аблвыканкама.

PHOTO BYMEDIA.NET

# Канстанцін Сумар

29

Старшыня Брэсцкага аблвыканкама.

У адрозненне ад Шапіры, кіраўніку Брэстчыны расці позна. Ён на сваім месцы, у родным горадзе. Але такія, як Сумар, трапляюць і ў крэсла прэм'ера, і на бесклапотныя пасады ў палатах парламента. Стратэгія Сумара — дакладна выконваць даручэнні Лукашэнкі і не губляць магчымасці яго публічна пахваліць, прычым так, што людзі хапаюцца за галаву. «Вы трошкі-трошкі вышэй за Бога», — даўняя фраза Сумара. «За праграму адраджэння вёскі, я лічу, Лукашэнку трэба ставіць помнік пры жыцці», — а гэта ўжо перадвыбарчая заява ў 2010. Пасля такіх «шчырасцяў» за сваю пасаду Сумар спакойны. З яго як з гусака вада нават пасля разгромнага візіту Лукашэнкі на «Івацэвічдрэў», які б каштаваў іншаму губернатару пасады.

Сын губернатара Андрэй таксама робіць галавакружную кар'еру. У 38 гадоў ён ужо палкоўнік міліцыі і кіраўнік брэсцкай абласной ДАІ.

**«Вы трошкі-трошкі вышэй за Бога».**

Аляксандру Лукашэнку, у часе селектарнай нарады.



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1949 у вёсцы Вічын на Лунінеччыне. Закончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут (1973), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1977). Працаваў аграномам, старшынёй калгаса, у Лунінецкім і Брэсцкім райвыканкамах. У 1996—1998 — намеснік старшыні Дзяржкантролю. У 1998—2000 — першы намеснік старшыні Мінаблвыканкама, у 2000—2004 — міністр падаткаў і збораў. Старшыня Брэсцкага аблвыканкама (ад 2004).

PHOTO BYMEDIA.NET

# Аляксандр Косінец

30

Старшыня Віцебскага аблвыканкама.

Доктар медыцынскіх навук Аляксандр Косінец дасягнуў сваёй кар'ернай вяршыні ў сярэдзіне 2000-х, калі яго, рэктара абласнога медуніверсітэта, закінулі адразу ў фатэль віцэ-прэм'ера. Косінец узяўся там за працу з такім імпэтам, што ў 2008 быў ад граху далей адпраўлены назад на Віцебшчыну.

Там Косінец загарэўся ідэяй пабудаваць Дыснэйлэнд коштам $100 мільёнаў. Нягледзячы на крызіс, ён насіўся са сваёй задумай як з пісанай торбай некалькі гадоў, ды ўсё марна. Наступная глабальная ідэя — аднаўленне апусцелага віцебскага аэрапорта.

Энтузіязму Косінца хапае на многае, балазе ў вобласці ёсць багаты «Нафтан» і абавязковы «Славянскі базар».

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1959 у вёсцы Роскі Сялец на Аршаншчыне. Закончыў Віцебскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1982), у якім працаваў да 1994. У 1995—1997 — кіраўнік РНПЦ «Інфекцыя і хірургія», у 1997—2005 — рэктар Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, у 2005—2008 — віцэ-прэм'ер. Старшыня Віцебскага аблвыканкама (ад 2008).



СЯРЖУК СЕРАБРО

**«У сельскай гаспадарцы рэнтабельнасць 7,6%. З датацыямі. Калі без датацый, было б мінус 7,6%».**

Аляксандру Лукашэнку, 2011.

# Сяргей Касцючэнка

31

Старшыня праўлення «Прыёрбанка».


PRIORBANK.BY

Фармальна Касцючэнка з’яўляецца толькі наёмным работнікам замежнай кампаніі, хай і топ-менеджарам. Аднак 23 гады паспяховага кіравання адным з найбуйнейшых недзяржаўных банкаў краіны робяць яго адным з самых уплывовых людзей у банкаўскім сектары.

Аўстрыйская банкаўская група Райфайзэн валодае 88% акцый «Прыёрбанка», яшчэ больш за 6% акцый належаць неназваным фізічным і юрыдычным асобам. Сярод іх можа быць і сам Касцючэнка — гэта сусветная банкаўская практыка. Дарэчы, некалькі гадоў таму часткай актываў банка валодаў Уладзімір Пефціеў.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1954 у вёсцы Вішнева на Валожыншчыне, зямляк знакамітых ксяндза Уладзіслава Чарняўскага і Шымона Перэса, прэзідэнта Ізраіля. Скончыў БДУІР (1978). Працаваў тамсама навуковым супрацоўнікам, загадчыкам сектара і прарэктарам у 1978—1986 і 1988—1990. Старшыня праўлення «Прыёрбанка» (з 1990).

**«Кіраўніцтва банка разглядае сур’ёзную дэвальвацыю рубля ў 2011 годзе як адзін з магчымых сцэнароў».**

За два месяцы да першай дэвальвацыі, 2011. Адна з першых такіх заяваў.

# Анатоль Тозік

32

Віцэ-прэм’ер.

Гісторыка па адукацыі Тозіка не задаволіла выключна выкладчыцкая кар’ера. У 1980 ён скончвае Вышэйшыя курсы КДБ у Мінску. Невысокі рост Тозіка не зашкодзіў яму стаць нефармальным «лідарам младатуркаў». Так Аляксандр Фядута назваў людзей, што прыйшлі ў атачэнне Лукашэнкі ўжо па рэфэрэндуме 1996 і былі ўсім яму абавязаныя.

Тозік разглядаўся як супрацьвага Шэйману. Але з Камітэта дзяржкантролю Тозіка нечакана на чатыры гады адправілі «мандарынам» у далёкі Кітай. З Паднябеснай ён вярнуўся з мноствам ідэй, як кітайскі досвед пераняць у Беларусі.

Прапаноўваў зрабіць платныя паліклінікі, а школьнікам павялічваць нагрузку.

Тозіка нярэдка можна пабачыць у Купалаўскім тэатры. Але сённяшні ягоны ўплыў далёкі ад ранейшага.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Ніводны з 332 супрацоўнікаў апарата Савета Міністраў не валодае свабодна замежнымі мовамі. І гэта ў краіне, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы!»**

Падчас дэманстрацыі чыноўнікам планшэты, люты 2011.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1949 у вёсцы Казанск Калінкавіцкага раёна. Скончыў гістарычны факультэт БДУ (1971), а пасля і аспірантуру. Кандыдат гістарычных навук. У 1980 скончыў Вышэйшыя курсы КДБ СССР у Мінску. Да 1994 працаваў у КДБ, потым да 2000 на кіраўнічых пасадах у Радзе бяспекі. Старшыня Камітэта дзяржкантролю (2000—2006), пасол Беларусі ў Кітаі (2006—2010), віцэ-прэм’ер (ад 2010).


PROKURATURA.GOV.BY

# Аляксандр Канюк

33

Генеральны пракурор.

Чалавек з сумным тварам. Юрыст, які звязаў свой лёс з войскам. Быў у вайсковых трыбуналах у Казахстане, Туркменістане. А падчас афганскай аперацыі нават у Кабуле. Бліжэй да развалу СССР вярнуўся на Радзіму, дзе таксама працаваў у вайсковых трыбуналах. Пасля стварэння Следчага камітэта, а таксама ў сувязі з магчымасцю кіраўнікам МУС і КДБ выдаваць ордары на арышт Генеральная пракуратура страціла вялікую частку ўплыву. Тым не менш, менавіта Канюк быў адным з тых, хто паспрыяў адхіленню старшыні КДБ Вадзіма Зайцава ад пасады.

У намесніках Канюка ходзіць амбітны пракурор Аляксей Стук.

У прыватным жыцці генпракурор перажыў вялікую трагедыю, у 2004 у яго загінуў сын.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1960 у Гродне. Скончыў БДУ (1982). Пасля паступіў у распараджэнне камандзіра вайсковай часці ў Барысаве. Два гады быў камандзірам узвода. Потым паступіў у распараджэнне Упраўлення вайсковых трыбуналаў у Маскве. Ад 1993 — суддзя Беларускага вайсковага суда. Ад 1997 — суддзя і старшыня Мінскага міжгарнізоннага вайсковага суда. Ад 2006 — суддзя і старшыня Беларускага вайсковага суда. Ад 2009 года — намеснік старшыні, старшыня вайсковай калегіі Вярхоўнага Суда. Ад верасня 2011 — генеральны пракурор. Генерал-маёр юстыцыі.

**«Ёсць прысуд, ён вынесены судом. І неэтычна ў адносінах да асуджаных так паводзіць сябе Еўрапарламенту».**

Пра рэзалюцыю наконт выраку Канавалаву і Кавалёву, 2012.

# Уладзімір Дворнік

34

Старшыня Гомельскага аблвыканкама.

Выпускнік ветэрынарнага інстытута працуе кіраўніком Гомельшчыны ўжо трэці год. Чым ён запомніўся? Па-першае, карупцыйным скандалам, пасля якога быў арыштаваны гомельскі мэр Віктар Піліпец. Па-другое, пераносам «Дажынак-2013» з Рагачова ў Гомель. Калі на прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі гэтае пытанне было ўзнята, той, не разабраўшыся, падсумаваў: хочаце сёлетнія «Дажынкі» ў Жлобіне — будуць у Жлобіне.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1963 у вёсцы Ровенская Слабада Рэчыцкага раёна. Закончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут. Працаваў трактарыстам, ветэрынарам, намеснікам старшыні калгаса, дырэктарам саўгаса, старшынёй Мазырскага райвыканкама. Старшыня Гомельскага аблвыканкама (ад 2010).



**«Неабходна стварыць умовы, каб выпускнікі хацелі працаваць і жыць на забруджаных тэрыторыях.»**

Снежань 2012.

# Аляксандр Шпілеўскі

Старшыня Мытнага камітэта.

Доўгажыхар беларускага ўладнага алімпа. Ужо 12 гадоў ён узначальвае Мытны камітэт. Супрацоўнікі ведамства трапляюцца на карупцыйных справах, а Шпілеўскі застаецца непатапляльны. Ён выхадзец з КДБ. Фактычна, праз ведамства Шпілеўскага плывуць мільярды грошай. Менавіта праз мытню праходзяць як энерганосьбіты, так і шмоткі чаўнакоў. «Залатое дно» беларускага бюджэту. У 2006 адсудзіў 60 мільёнаў рублёў у «Камсамольскай праўды» за памылкова ўжыты здымак.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1953 у Бабруйску. У 1981 скончыў БДУ, у 1987 — Вышэйшую школу КДБ СССР. Служыў ва Узброеных Сілах і ў КДБ. У 1997—2001 — дэпутат палаты прадстаўнікоў. У 2001—2009 — памочнік Лукашэнкі, галоўны інспектар па Мінску. Ад верасня 2001 — старшыня Мытнага камітэта.

35


PHOTO.BYMEDIA.NET

**«Адсутнасць на мытні беларускамоўных бланкаў — мая асабістая памылка».**

Верасень 2009.

# Рыгор Кісель

36

Старшыня праўлення АНТ.

Рэдактар магілёўскай абласной газеты аказаўся ў першым лукашэнкаўскім магілёўскім прызыве. Не меўшы досведу працы на тэлебачанні, ён стаў начальнікам на БТ.

Пасля двухгадовага адпачынку на дыпламатычнай пасадзе ў Румыніі Кісель вярнуўся на тэлебачанне. На ягоным АНТ прапаганда танчэйшая, чым на «Беларусь-1». Каб адчуць розніцу ў стаўленні Лукашэнкі да Кісяля і старшыні Белтэлерадыёкампаніі Геннадзя Давыдзькі, дастаткова ўключыць прэс-канферэнцыі кіраўніка дзяржавы. Першаму дазваляецца расказваць анекдоты пра Лукашэнку, другому — моўчкі падтакваць.

«Плывуць у адным чоўне Абама, Пуцін і Лукашэнка. Вырашылі галасаваць, каму веславаць… Пуцін і Абама вяслуюць і кажуць адзін аднаму: «Як так? Нас усяго трое, а Лукашэнка атрымаў чатыры галасы!»

Анекдот, расказаны на прэс-канферэнцыі, 2011.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1955 у вёсцы Здудзічы Светлагорскага раёна. Закончыў факультэт журналістыкі БДУ (1979), працаваў карэспандэнтам і загадчыкам аддзела ў «Магілёўскай праўдзе» (1979—1987), у магілёўскім абкаме КПБ (1987—1990), рэдактарам «Магілёўскіх ведамасцяў» (1990—1994). У 1994—2000 — старшыня Белтэлерадыёкампаніі, у 2000—2002 — пасол у Румыніі. Старшыня праўлення Другога нацыянальнага канала (АНТ) (з 2002).

# Мікалай Снапкоў

37

Міністр эканомікі.

Адзін з самых маладых міністраў Беларусі прыйшоў на высокую пасаду фактычна зніадкуль. Пагаворвалі, што ягоная жонка мае адносіны да жонкі Віктара Лукашэнкі.

Прыхільнік рынкавай эканомікі і адкрытасці. Праўда, першыя гады працы на пасадзе міністр Снапкоў быў настолькі не ўпэўнены ў сабе, што ўвесь час высоўваў наперад сябе шэрага кардынала Андрэя Тура — той прасядзеў на пасадзе намесніка 16 гадоў.

Толькі ў апошні час Снапкоў пачаў выходзіць на публіку. Яму адводзіцца роля генератара новых ідэй, але рычагоў уплыву на іх рэалізацыю ў яго няшмат.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1969 у Магілёве. Закончыў Беларускую сельгасакадэмію (1991), Акадэмію кіравання (2001). Працаваў эканамістам, старшым эканамістам, бухгалтарам у калгасах Магілёўшчыны і Гродзеншчыны, у сістэме «Белаграпрамбанка». У 1996—2000 — намеснік старшыні Горацкага райвыканкама, у 2000—2009 — начальнік фінансавага ўпраўлення, а пасля намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама. Міністр эканомікі (з 2009).

**«За эканамічнае злачынства павінна быць эканамічнае пакаранне. Няма сэнсу садзіць чалавека, які абадраў дзяржаву, на казённы хлеб і поўнае ўтрыманне».**

2011.

# Уладзімір Канаплёў

38

Старшыня федэрацыі гандбола.

Многія кажуць, што доўгія гады бліжэйшага чалавека для Лукашэнкі, чым зямляк і аднагодак Канаплёў, не было. Канаплёў — адзін з людзей, каму Лукашэнка абавязаны сваім сённяшнім становішчам. Доўгі час Уладзімір Канаплёў быў дэпутатам палаты прадстаўнікоў ад роднай, Шклоўскай акругі, і нават узначальваў палату. Сёння цалкам засяродзіўся на працы ў гандбольнай федэрацыі, цесна звязанай з бізнэсам.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1954 у вёсцы Акулінцы Магілёўскага раёна. Скончыў Магілёўскі педінстытут (геафак). Працаваў выхавальнікам, інспектарам па справах непаўналетніх. Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета. У 2004— 2007 быў спікерам палаты прадстаўнікоў. Жанаты, мае двух сыноў.




**«Трохі рогі адрэзалі, а так усё добра».**

Пасля адстаўкі з пасады спікера і некалькіх аперацый, лістапад 2007.

# Пятро Руднік

Старшыня Магілёўскага аблвыканкама.

Магілёўшчына дае ў ВУП краіны менш за 8%, гэта найменшы паказчык сярод абласцей. На яе тэрыторыі няма ніводнага прамысловага гіганта. Таксама гэта адзіная вобласць, уласныя даходы якой меншыя за датацыі з рэспубліканскага бюджэту. Руднік кіруе такой гаспадаркай ужо пяты год. Прынцыповых нараканняў на яго працу няма, але і асаблівых поспехаў не зафіксавана.

39

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1957 у вёсцы Аляксееўка Брагінскага раёна. Закончыў Дрэздэнскі тэхнічны ўніверсітэт (1985) і Акадэмію кіравання (2007). Адзіны ў топе чыноўнікаў, хто атрымаў адукацыю за межамі Беларусі і Расіі, хай сабе і ў ГДР. Працаваў у ПА «Тэхнапрыбор», у будаўнічых арганізацыях Магілёва. У 1995—2008 — намеснік дырэктара, а пасля дырэктар «Магілёўліфтмаша». Старшыня Магілёўскага аблвыканкама (з 2008).



BOBRUISK.BY



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Сяргей Міхалок

40

Музыка.

Лідар гурту «Ляпіс Трубяцкой» сышоў у бескампрамісную апазіцыю да сённяшняй улады. «Напілісь быкі, скачуць па краіне, топчуць ручнікі капытамі ў гліне», — спявае Міхалок, і кожны разумее гэтыя метафары.

Музыка даваў рэзкія інтэрв'ю, дзе называў Лукашэнку «хлусам і злодзеем». Потым гэтымі выказваннямі зацікавіліся ў генпракуратуры, але крымінальнай справы не завялі. Тым не менш, Міхалок застаецца жыць у Расіі. На сваіх канцэртах Міхалок гукае «Жыве Беларусь» і ШОС. Пад сэрцам ён выбіў татуіроўку «Не быць скотам», а на назе — Пагоню. Папулярны музыка мае вялікі ўплыў на моладзь.

**Біяграфія**

Нар. у 1972 у Дрэздэне (ГДР), у сям'і вайскоўца. Скончыў Інстытут культуры. У 1990 стварыў гурт «Ляпіс Трубяцкой». Выступаў таксама разам з «Крамбамбуляй», дуэтам Саша і Сірожа. Разведзены. У адносінах з артысткай Святланай Зелянкоўскай, выканаўцай ролі Настассі Слуцкай у аднайменным фільме.

**«Любы чалавек кіраваў бы краінай лепш за Лукашэнку».**

Відэаінтэрв'ю перад канцэртам у Піцеры, верасень 2011.

# Аляксандр Базанаў

**41**

Дырэктар Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта.

У функцыі Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра ўваходзіць забеспячэнне Аляксандра Лукашэнкі і Адміністрацыі прэзідэнта сацыялагічнай інфармацыяй. На сайце напісана, што ІАЦ займаецца «фарміраваннем стратэгічных накірункаў дзяржаўнай палітыкі». Ведамства ў розныя гады ўзначальвалі Ніна Шпак і Алег Праляскоўскі. У 2010 цэнтр узначаліў Аляксандр Базанаў, былы супрацоўнік пасольства Беларусі ў Нямеччыне. А яшчэ перад гэтым ён займаў пасаду прэс-сакратара КДБ. Менавіта тым часам датуюцца апошнія публічныя выступы Базанава. Уваходзіць у спіс неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза.



IAC.GOV.BY

**Аб'ектыўка**

Біяграфіі ў адкрытым доступе няма.

У намесніках у Базанава ходзіць «заходнерус», змагар з беларускай мовай і нацыяналізмам і прыхільнікам адзінства трыадзінага рускага народа Леў Крыштаповіч.

**Яны [амерыканцы] рашаюць пытанні з пазіцыі перавагі рэсурсаў.**

Папрок на адрас амерыканцаў за іх палітыку ў дачыненні да Беларусі.

# Анатоль Тарнаўскі

**42**



Генеральны прадстаўнік «Юнівест» па краінах СНД.

Расійскі мільянер трапіў у чорны спіс Еўрасаюза ў якасці «трэцяга кашалька» Лукашэнкі. Ён спансаруе Прэзідэнцкі спартовы клуб, а ў ягонай кампаніі «Юнівест-М» намесніцай дырэктара па маркетынгу працуе жонка Дзмітрыя Лукашэнкі. Раней кампанія была адным з найбуйнейшых недзяржаўных экспарцёраў нафтапрадуктаў, нароўні з «Трайплам». Цяпер сканцэнтравалася на будаўніцтве нерухомасці.

Тарнаўскі вядомы і як праваслаўны мецэнат. За гэтыя заслугі ён кавалер крыжа Еўфрасінні Полацкай.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1950 у Данецку (Украіна). Працаваў віцэ-прэзідэнтам расійскай «Слаўнафты» па сувязях з СНД, пасля ўзначальваў кампанію «Юнівест-М». Афіцыйна ягоная пасада гучыць як генеральны прадстаўнік «Юнівест» па краінах СНД.

# Мікалай Лукашэнка

**43**

Малодшы сын кіраўніка дзяржавы.

Некалі Лукашэнка-старэйшы сказаў: калі аддасць некаму ўладу, дык толькі малодшаму сыну, бо «ўнікальнае расце дзіця». Заўсёды з'яўляецца разам з бацькам, як у Беларусі, так і падчас замежных візітаў. Падчас паездкі ў Ватыкан падарыў Папу рускі буквар. Як і тата, гуляе ў хакей пад нумарам 1.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 2004. Вучыцца ў элітнай школе ў Астрашыцкім Гарадку.



AP IMAGES

# Сяргей Сідорскі

**44**

Міністр па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе Еўразійскай эканамічнай камісіі.

Былы прэм'ер, «моцны гаспадарнік» Сідорскі ніколі не быў у спісах невыязных у Еўрасаюз, але выпускаць прэм'ера на перамовы Лукашэнка не вельмі імкнуўся. Цікавы псіхалагічны момант: Лукашэнка вельмі часта публічна крычаў на Сідорскага, а той маўчаў, апусціўшы галаву. На Пракаповіча ці Мясніковіча публічна кіраўнік краіны голас не падымае.

Падчас Плошчы-2010 дэманстранты ішлі на перамовы якраз да Сідорскага. Праўда, так і невядома, ці былі з ім якія кантакты праз Маскву ці наўпрост.

Некаторыя нават меркавалі, што Сідорскі можа ўзначаліць апазіцыю. Але Сідорскі сышоў з пасады без скандалаў, а потым перабраўся на грашовую і бесклапотную пасаду ў Маскву.

Заслугоўвае асобнай згадкі і Людміла Сідорская. Яна працавала ў Доме Масквы ў Мінску і ў дадатак займалася дабрачыннымі праектамі для дзяцей і ветэранаў. Людміла ахвотна з'яўлялася на публіцы — рэдкі такі выпадак сярод жонак топ-чыноўнікаў Беларусі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ёсць адна заўвага: наша краіна называецца не «Белоруссія», а «Беларусь».**

На пасяджэнні найвышэйшага органа Мытнага саюза Беларусі, Расіі і Казахстана, снежань 2009.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1954 у Гомелі. Скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. У 1976—1992 працаваў на Гомельскім заводзе радыётэхналагічнага абсталявання на пасадах ад майстра ды дырэктара. У 1992—1998 — кіраўнік НПА «Ратон», у 1998—2001 — намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама. У 2001—2003 — намеснік, першы намеснік прэм'ер-міністра. У 2003—2010 — прэм'ер-міністр. Міністр па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе Еўразійскай эканамічнай камісіі (ад 2011). Жанаты. Мае дзвюх дачок.

# Анатоль Капскі

**45**

Генеральны дырэктар БАТЭ.

Летуценнік. Некалі бізнэсмэн, якому ледзь пераваліла за 30, Анатоль Капскі разам з трэнерам Юрыем Пунтусам вырашылі стварыць у Беларусі клуб, які будзе гуляць у Лізе чэмпіёнаў. Была толькі ідэя, у якую ніхто не верыў. А яна матэрыялізавалася.

Сёння Капскі — гендырэктар завода БАТЭ, але ягоная стыхія — футбол. Ён не можа быць абыякавым, не можа змаўчаць, праз усё перажывае. Вось і сэрца не вытрымлівае. У свае 46 гадоў дактары ўжо двойчы даставалі яго літаральна з таго свету. Капскі — адкрыты чалавек, генератар ідэй, выдатны кадравік. І стваральнік унікальна паспяховага спартовага бізнэсу.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1966 у вёсцы Дуброва (Чэрвеньскі раён). Скончыў наргас (1987). Быў намеснікам і дырэктарам невялікіх прадпрыемстваў «Полымя» і «Сталкер». Ад 2005 — генеральны дырэктар ААТ «БАТЭ», кіраўнік футбольнага клуба БАТЭ. Жанаты, мае дачку і сына.

**«У нашым футболе працуюць ідыёты і бездары».**

Студзень 2013.



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Аляксандр Радзькоў

46

Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Радзькоў — не самы папулярны чалавек ва ўладзе. Таму Лукашэнка і не баіцца ставіць яго кіраўніком «Белай Русі». Усё адно не мае шанцаў перарасці ў паспяховага лідара. Быў рэктарам Магілёўскага педуніверсітэта, таго самага, што скончыў кіраўнік дзяржавы.

На пасадзе міністра адукацыі запомніўся ўзмацненнем русіфікацыі. Пры Радзькову быў канчаткова разгромлены Коласаўскі ліцэй, паменшала лічба беларускамоўных класаў, нават гісторыю Беларусі сталі выкладаць па-руску. У Адміністрацыі прэзідэнта таксама аскандаліўся цыркулярам у рэгіёны з патрабаваннем не дапускаць «прымусовай беларусізацыі».

**«Для поспеху ў жыцці не канечне мець вышэйшую адукацыю».**

На рэспубліканскай нарадзе работнікаў сістэмы адукацыі, студзень 2007.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1951 у вёсцы Вотня (Быхаўскі раён). Доктар педагагічных навук. Рэктар Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (2001—2003). Міністр адукацыі (2003—2010), ад 2010 — першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Узначальвае «Белую Русь». Быў кіраўніком ініцыятыўнай групы Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах-2010.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Максім Рыжанкоў

47

Памочнік прэзідэнта па спорце.

Рыжанкова перакінулі ў спорт з дыпламатыі. У маладога дыпламата імкліва развівалася кар'ера. Ён працаваў у пасольствах Беларусі ў Ізраілі, Польшчы, быў высланы з Варшавы падчас дыпламатычнага скандалу.



MST.BY

**«Вельмі нечаканая для мяне прапанова, разглядаю яе як знак вялікай павагі з боку Аляксандра Лукашэнкі».**

У дзень прызначэння, кастрычнік 2012.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1972 у Мінску. Сын першага міністра спорту незалежнай Беларусі Уладзіміра Рыжанкова. Скончыў міжнароднае права на юрфаку БДУ (1994). У 1994—2006 працаваў у Міністэрстве замежных справаў. У 2006—2012 — начальнік упраўлення замежнай палітыкі Адміністрацыі прэзідэнта. З 2012 — памочнік прэзідэнта па спорце.

# Усевалад Янчэўскі

48

Памочнік прэзідэнта, начальнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта.

Былы БРСМаўскі бонза. У 2004 яго нечакана сышлі ў галоўныя рэдактары апакаліптычнага часопіса «Планета». Выданне спецыялізавалася на ўсялякіх сусветных змовах, пацверджанне якіх зусім неабавязковае.

Менавіта Янчэўскі ў 2008 паведаміў рэдактарам «Народнай волі» і «Нашай Нівы» пра вяртанне ў шапікі і сістэму падпіскі.

**«Ні пра якую барацьбу з іншадумствам, з крытычнымі заўвагамі, са свабодным выказваннем думак гаворкі няма».**

Падчас падрыхтоўкі закона аб інтэрнэце, ліпень 2008.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1976 у Барысаве. Скончыў юрыдычны факультэт БДУ (1988). Быў актыўным сябрам перадвыбарчага штаба Станіслава Шушкевіча падчас выбараў у Вярхоўны Савет XIII склікання. У сярэдзіне 1990-х узначаліў пралукашэнкаўскую арганізацыю моладзі «Прамое дзеянне», якая перарасла ў Беларускі патрыятычны саюз моладзі, які потым зліўся з Беларускім саюзам моладзі ў БРСМ.

Быў дэпутатам палаты прадстаўнікоў (1996—2000). Адзін з наймаладзейшых чыноўнікаў найвышэйшага эшалона.



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Ігар Рачкоўскі

Першы віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

Камандзір Віктара і Дзмітрыя Лукашэнкі ў часе іх вайсковай службы. Доўгі час Рачкоўскі ўзначальваў Асобную службу актыўных мерапрыемстваў (АСАМ) — пагранічны спецназ. Потым ён быў начальнікам будучага старшыні КДБ Вадзіма Зайцава.

Рачкоўскі — усмешлівы чалавек і пагранцоў прымушаў усміхацца пры працы з людзьмі. Увогуле, працу памежнага камітэта ён «еўрапеізаваў». Але менавіта яму давялося стаць «ахвярным казлом» за шведскі самалёт.

У Рачкоўскага рэдкасна вялікая сям'я — аж пяцёра дзяцей.

49



GPK.GOV.BY

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1968 у Смаргоні. Скончыў Рыжскую вышэйшую вайскова-палітычную вучэльню (1990), курсы Інстытута нацыянальнай бяспекі (1996), БДЭУ (2001). У 2007—2012 — кіраўнік Дзяржаўнага памежнага камітэта. Генерал-маёр.

**«Калі мы хочам, каб нас паважалі, павінны паважаць самі сябе».**

З выступу ў палаце прадстаўнікоў, красавік 2010.

**«Свабода ёсць найвялікшым дарам».**

З паслання на Раство Хрыстова, студзень 2013.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аб'ектыўка**

Сапраўднае імя — Кірыл Вахрамееў. Нар. у 1935 у Маскве ў сям'і былых купцоў. Архіерэй Рускай праваслаўнай царквы, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі, архімандрыт Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. Герой Беларусі. Узнагароджаны ордэнамі Францішка Скарыны, «За заслугі перад Айчынай» IV ступені (Расія) ды інш. Пры ўручэнні расійскага ордэна адказаў прэзідэнту Пуціну: «Служу отечеству и союзному государству России и Белоруссии!».

# Філарэт

50

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Экзарх усяе Беларусі, Герой Беларусі.

У Беларусі Кірыл Вахрамееў ад 1978, сам ён з вядомага яраслаўскага купецкага роду. У РПЦ у савецкі час займаў двухсэнсоўную пасаду кіраўніка Аддзела замежных царкоўных сувязяў.

Часта сустракаецца з Аляксандрам Лукашэнкам. Засядае ў прэзідыуме Усебеларускіх народных сходаў. Бласлаўляе Аляксандра Лукашэнку ў часе інаўгурацый.

Аднак роля царквы ў сістэме зводзіцца да своеасаблівага «дзяржкамітэта па справах культаў». Праваслаўная царква ператварылася ў месца працаўладкавання масы адстаўнікоў-сілавікоў, што апранаюць расы. Аляксандр Лукашэнка аднойчы нават папракнуў праваслаўных, што яны набудавалі столькі цэркваў, што на іх ужо і «спецыялістаў не хапае».

Хоць Мітрапаліт фармальна лічыцца духоўным лідарам, ніхто не ўзгадае хоць нейкую заяву ці слова Мітрапаліта, што за апошняе 20-годдзе мелі б розгалас або зрабілі ўплыў на грамадства.

# Другая паўсотня

Прадстаўнікоў незалежнага грамадства ў другой паўсотні значна больш, чым у першай, дзе ёсць толькі музыка Сяргей Міхалок.

З апазіцыйных дзеячаў найвышэйшыя пазіцыі занялі **Мікола Статкевіч** (58-е месца), **Алесь Бяляцкі** (60-е), **Павел Севярынец** (61-е). Менавіта ад іх лёсу залежаць далейшыя адносіны з краінамі Захаду. Алесь Бяляцкі летась быў адным з прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію.

Недалёка ад іх **Зянон Пазняк** (65-е) і **Аляксандр Мілінкевіч** (69-е). Крыху далей **Уладзімір Някляеў** (89-е). У былых кандыдатаў у прэзідэнты застаецца добрая пазнавальнасць.

Нізкія месцы сілавікоў **Аляксандра Боечкі** (55-е) і **Валянціна Шаева** (86-е) можна патлумачыць тым, што на сваіх пасадах яны яшчэ зусім нядаўна. Людзі не самыя вядомыя. А Шаеў увогуле не быў прызначаны ў Следчы камітэт, калі пачыналася апытанка.

Вялікае прадстаўніцтва ў другой палове людзей з медыясферы. Гаспадар Tut.by **Юрый Зісер** заняў 65-е месца, адразу за ім — публіцыстка, шэф-рэдактар «Народнай волі» **Святлана Калінкіна**. Ёсць у сотцы і яе галоўны рэдактар **Іосіф Сярэдзіч** (81-е). **Віталь Шураўка**, уласнік партала onliner.by, які ўсё больш набірае папулярнасць, на 88-м месцы. На прыступку вышэй за яго — кіраўніца апазіцыйнага сайта «Хартыя-97» **Наталля Радзіна**.

З духоўных асобаў у спіс, акрамя **Філарэта**, трапіў таксама каталіцкі арцыбіскуп **Тадэвуш Кандрусевіч**, які публічна карыстаецца паўсюль беларускай мовай. Ёсць яшчэ і праваслаўны протаіерэй **Фёдар Поўны**, які разам з Лукашэнкам нядаўна адпачываў у Сочы. Айцец Фёдар у 2008 хацеў стаць дэпутатам савета рэспублікі, але не атрымаў згоды Філарэта.

Побач размясціліся суддзі **Віктар Камянкоў і Валянцін Сукала**. 72-е і 73-е месца адпаведна.



Аляксандр Машэнскі.



Мікола Статкевіч.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
Святлана Калінкіна.

Гэта можа сведчыць пра залежыць судовай сістэмы ад выканаўчай улады.

У сотню ўплывовых трапіла толькі адна дзейсная спартсменка — гэта тэнісістка **Вікторыя Азаранка** (74-е), якая ніколі не выказваецца на палітычныя ці сацыяльныя тэмы. Да спорту можна аднесці **Сяргея Цяцерына** (94-е), які некалі дапамагаў навучыцца Аляксандру Лукашэнку гуляць у тэніс. У 1990-ыя тэніс быў папулярным відам спорту ў Крамлі.

**Лявон Вольскі** прадстаўляе музыку (84-е), а **Уладзімір Арлоў** (97-е) — прыгожае пісьменства. Ёсць у спісе праўладны аналітык **Сяргей Мусіенка**, які часта агучвае новыя ідэі істэблішмэнту (98-е).

Бізнэс у другой палове рэйтынгу таксама прысутнічае. Гэта ўласнік «Савушкавага прадукта» ды «Санта-Брэмар», ганаровы консул Ісландыі ў Беларусі **Аляксандр Машэнскі** (56-е) і **Аркадзь Добкін** (83-е), які стварыў канкурэнтназдольную на Захадзе праграмісцкую кампанію EPAM Systems, і іх «калегі»-мільянеры.

З рэктараў у спіс змаглі трапіць толькі **Сяргей Абламейка** з БДУ (91-е) і **Уладзімір Шымаў** з наргаса (92-е).



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
Алесь Бяляцкі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
Уладзімір Арлоў.



Юрый Зісер.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Вікторыя Азаранка.



Павел Латушка.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Дзе нарадзіліся ўплывовыя беларусы?




Украіна — 8
Расія — 8
Казахстан — 2
Германія — 1

Месца нараджэння 8 асобаў невядомае


гістарычная
выстава
сакавік
1968
у Польшчы
Цэнтральная навуковая бібліятэка
імя Я. Коласа НАН РБ
Мінск, вул. Сурганава, 15, 6 паверх
Адкрыццё выставы адбудзецца
6 сакавіка а 17-й гадзіне
6-24
сакавіка
Выстава прысвечана падзеям сакавіка 1968 года –
аднаму з найважнейшых перыядаў
у гісторыі Польшчы пасля другой сусветнай вайны
Visegrad 4
Integration
& Cohesion
Інстытут Нацыянальнай Памяці (Варшава)
Польскі Інстытут у Мінску
Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН РБ
Пасольства Рэспублікі Польшча у
Рэспубліцы Беларусь УНП 101184926
INSTYTUT
PAMIĘCI
NARODOWEJ
ЦНБ
НАН
БЕЛАРУСІ


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Літаратурную прэмію імя Ежы Геройца здабыў Уладзімір Някляеў за раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». Пісьменнік атрымаў чэк на 10 тысяч еўра. Другое месца другі год запар аддалі Альгерду Бахарэвічу за кнігу «Гамбургскі рахунак Бахарэвіча», трэці — Адам Глобус са «Сказамі».**



**Баскетбаліст Дэніс Родман стаў першым амерыканцам, хто сустрэўся з Кім Чэн Ынам — лідарам КНДР. Высвятляецца, што бацька Ына, Кім Чэн Ір, быў фанатам баскетбольнай каманды «Чыкага Булз», за якую гуляў Родман.**



**2 сакавіка прайшла «Мінская лыжня»: калі пад кіраўніцтвам Лукашэнкі на лыжах бегае вышэйшае чынавенства. Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч стаміўся на трасе, справа ад яго бяжыць Марыяна Шчоткіна — міністарка працы і сацыяльнай абароны.**



**У Японіі запалілі тысячу ліхтарыкаў у гонар Бяляцкага і іншых палітвязняў.**

## Анекдоты і жарты

### Пятая калона і камунізм

Учора на свае вочы бачыў пятую калону і камунізм!!!

Пятая калона — гэта чарга на мяжы з Польшчай, а камунізм — гэта цэны ў гіпермаркетах Беластока.

**А.Ш-чык**

* * *

Усю ноч не спала, мужа чакала — хвалявалася моцна...

А потым згадала, што не замужам, і заснула.

* * *

Чыноўнік, які не браў хабару, пайшоў на пенсію па вадзе.

* * *

Кактус, які 10 год стаяў ля камп'ютара, пачаў раздаваць вай-фай.

* * *

У любой незразумелай сітуацыі даставай тэлефон і тыкай пальцам у экран.

* * *

— Раздзявайся!
— Навошта?
— Паглядзім!

***

— Ну, як твая замежная мова?
— Размаўляю са слоўнікам.
— А з людзьмі не спрабаваў?

* * *

Калі Дэпард'ё атрымаў у Саранску рахунак за камунальныя паслугі, то зноў прыняў французскае грамадзянства.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Шырока аслаўлены ягамосць Саланевіч, не сагрэўшы добра месца ў Вільні, са сваёй «Севера-Западнай Жізняй» перабраўся ў Гродна, але і там не доўга папасываўшы прэцца цяпер у Мінск.

**«НН». №10. 1912.**

**Подых навальніцы.** Каля 110 з 750 зарэгістраваных дэмакратычных кандыдатаў перамаглі ў першым туры мясцовых выбараў. Кандыдаты ад апазіцыі перамаглі нават там, дзе незалежнае грамадства не мела асяродкаў: у Сянне, Круглым, Камянцы, Маларыце. Найбольш энергічна дэмакратычны рух правёў выбары ў Барысаве/Жодзіне, Бярозе/Белаазёрску, Мастах, Верхнядзвінску, Оршы/Барані, Наваполацку, Пухавічах, Бабруйску.

**«НН». №9. 2003.**


Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8045. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 05.03.2013.
Замова №1147.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13009